*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша Слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 41 (1348) 11 КАСТРЫЧНІКА 2017 г.**

## Дарагія сябры “Нашага слова”!

У гэтым квартале адбылося павелічэнне колькасці падпісчыкаў. З верасня часткова з’явілася ведамасная падпіска для некаторых раёнаў, недзе папрацавалі арганізацыі ТБМ, недзе пры наяўнасці жывых арганізацый падпіска яшчэ знізілася. Можна адзначыць працу арганізацый у Баранавічах, Оршы, Гародні, Салігорску. Але пры тым павялічылася колькасць раёнаў, дзе не выпісваюць ні адной газеты.

| | **Ліпень** | **Кастрычнік** |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 11 | 17 |
| Бяроза р.в. | 9 | 8 |
| Белаазёрск р.в. | 1 | 1 |
| Бярэсце гор. | 7 | 6 |
| Ганцавічы р.в. | - | - |
| Драгічын р.в. | - | - |
| Жабінка р.в. | - | - |
| Іванава р.в | 1 | 1 |
| Івацэвічы р. в. | 3 | 4 |
| Камянец р.в. | 1 | 1 |
| Кобрын гор. | 2 | 2 |
| Лунінец гор. | 2 | 2 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | 1 | 1 |
| Пінск гор. | 8 | 6 |
| Пружаны р.в. | 7 | 19 |
| Столін р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **54** | **69** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | - | - |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 16 | 17 |
| Віцебск РВПС | 1 | 1 |
| Верхнедзвінск р.в. | 4 | 5 |
| Глыбокае р.в. | 7 | 9 |
| Гарадок р.в. | 3 | 4 |
| Докшыцы р.в. | 3 | 3 |
| Дуброўна р.в. | 1 | - |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 1 | 1 |
| Міёры р.в. | 1 | 1 |
| Наваполацк гор. | 19 | 18 |
| Орша гор. | 6 | 18 |
| Полацк гор. | 3 | 3 |
| Паставы р.в. | 7 | 4 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 2 | 1 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 2 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 7 | 7 |
| Шуміліна р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **88** | **99** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 2 | 2 |
| Барысаў гор. | 2 | 5 |
| Вілейка гор. | 1 | 1 |
| Валожын гор. | 9 | 7 |
| Дзяржынск р.в. | 9 | 8 |
| Клецк р.в. | - | - |
| Крупкі р.в. | 3 | 3 |
| Капыль р.в. | 1 | 1 |
| Лагойск | 5 | 4 |
| Любань р.в. | 1 | 1 |
| Менск гор. | 198 | 211 |
| Менск РВПС | 5 | 8 |
| Маладзечна гор. | 10 | 9 |
| Мядзель р.в. | 5 | 5 |
| Пухавічы РВПС | 4 | 4 |
| Нясвіж р.в. | 9 | 25 |
| Смалявічы р.в. | 1 | 2 |
| Слуцк гор. | 9 | 7 |
| Салігорск гор. | 6 | 16 |
| Ст. Дарогі р.в. | - | - |
| Стоўбцы р.в. | 3 | 4 |
| Узда р.в. | 2 | 1 |
| Чэрвень р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго:** | **287** | **326** |
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | - | 3 |
| Брагін р.в. | 1 | - |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 20 | 21 |
| Гомель РВПС | - | - |
| Добруш р.в. | 1 | 1 |
| Ельск р.в. | 1 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 14 | 14 |
| Жлобін гор. | 1 | 1 |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 |
| Карма р.в. | 1 | 1 |
| Лельчыцы р.в. | - | - |
| Лоеў р.в. | - | - |
| Мазыр гор. | 2 | 2 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 1 |
| Нароўля р.в. | 1 | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыца гор. | 1 | 1 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 1 | 1 |
| Хойнікі р.в. | - | - |
| Чачэрск р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **50** | **53** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 3 | 3 |
| Ваўкавыск гор. | 8 | 8 |
| Воранава р.в. | 4 | 19 |
| Гародня гор. | 28 | 35 |
| Гародня РВПС | 19 | 18 |
| Дзятлава р.в. | 6 | 9 |
| Зэльва р.в. | - | - |
| Іўе р.в. | 2 | 16 |
| Карэлічы р.в. | 3 | 3 |
| Масты р.в. | 4 | 3 |
| Наваградак гор. | 3 | 1 |
| Астравец р.в. | 2 | 3 |
| Ашмяны р.в. | 3 | 3 |
| Смаргонь гор. | 4 | 5 |
| Слонім гор. | 7 | 6 |
| Свіслач р.в. | 4 | 4 |
| Шчучын р.в. | 1 | 2 |
| Ліда | 12 | 45 |
| **Усяго:** | **112** | **183** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 3 | 2 |
| Бялынічы р.в. | - | - |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | 1 | - |
| Горкі гор. | 1 | 1 |
| Дрыбін р.в. | - | - |
| Кіраўск р.в. | - | - |
| Клічаў р.в. | 2 | 2 |
| Клімавічы р.в. | - | - |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 1 |
| Краснаполле р.в. | - | - |
| Крычаў р.в. | - | - |
| Круглае р.в. | 2 | 2 |
| Мсціслаў р.в. | 2 | 2 |
| Магілёў гор. | 30 | 28 |
| Магілёў РВПС | - | - |
| Асіповічы гор. | 11 | 11 |
| Слаўгарад р.в. | - | 1 |
| Хоцімск р.в. | - | - |
| Чэрыкаў р.в. | 2 | 2 |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 1 | 2 |
| **Усяго** | **56** | **55** |
| **Усяго на краіне:** | **647** | **785** |

ISSN 2073-7033




# 170 гадоў з дня нараджэння Эдварда Вайніловіча



**Эдвард Антоній Леанард Адамавіч ВАЙНІЛОВІЧ** (13 кастрычніка 1847, Вялікая Сляпянка (цяпер у межах Менска) - 16 чэрвеня 1928, Быдгашч, Рэспубліка Польшча) - буйны гаспадарчы і палітычны дзеяч Беларусі і Расійскай імперыі. Належаў да сярэднезаможнага шляхецкага роду Вайніловічаў герба "Сыракомля". Як асоба з'яўляўся глыбока веруючым, сумленным і працавітым чалавекам, абаронцам права прыватнай уласнасці, праявіў сябе патрыётам Беларусі. Усё жыццё быў прыціўнікам нацыяналізму, актыўна падтрымліваў беларускі нацыянальны рух, не прымаючы толькі сацыялістычныя кірункі апошняга.

Атрымаў тэхнічную і сельскагаспадарчую адукацыю і практыку (у тым ліку - за мяжой), але хутка пачаў актыўна займацца ва ўласным маёнтку сельскагаспадарчай вытворчасцю, грамадскай і дзяржаўнай службай у родным Слуцкім павеце Менскай губерні. Уступіў у 1878 г. у Менскае таварыства сельскай гаспадаркі (1878-1921), стаў у 1888-1907 гг. яго віцэ-старшынём, а ў 1907-1921 гг. старшынём. З 1888 г. фактычна быў кіраўніком Менскага таварыства сельскай гаспадаркі і вывеў яго ў шэрагі самых эфектыўных і прагрэсіўных гаспадарчых арганізацый Расійскай імперыі.

У 1905-1910 гг. на свае грошы пабудаваў у Менску велічны каталіцкі касцёл Святога Сымона і Святой Алены (Чырвоны касцёл) у памяць аб сваіх заўчасна памерлых дзецях. Быў шчырым католікам, але і заўзятым прыхільнікам міжнацыянальнага і міжканфесійнага міру, свабоды сумлення; будаваў праваслаўныя цэрквы, стаў заснавальнікам камітэта абароны праў яўрэяў і татар у Клецку.

Маючы велізарны аўтарытэт у літоўска-беларускім краі, быў выбраны дэпутатам (1906-1909) ад Менскай губерні ў Дзяржаўны Савет Расійскай імперыі, дзе ў 1906-1908 г. узначальваў групоўку дэпутатаў "Польскае кола" (і паралельна яе частку - "Кола Літвы і Русі"). У 1906 г. адмовіўся ад прапанаванай Пятром Сталыпіным пасады намесніка міністра земляробства Расійскай імперыі. Стаў адным з лідараў ліберальна-кансерватыўнага кірунку "краёвасці" і першым старшынём Краёвай партыі Літвы і Беларусі (1907-1908) - выступаў за аўтаномію свайго края ў складзе Расійскай імперыі, скасаванне саслоўных адрозненняў, ліквідацыю сялянскага малазямелля, развіццё сістэмы бясплатнай пачатковай адукацыі, прававую роўнасць народаў, моў, культур, канфесій і інш.

У 1911-1917 гг. быў (па выбары) дэпутатам ад "польскай" (каталіцкай) курыі Слуцкага павета ў менскай губернскай земскай управе (менскім земстве).

У час Першай сусветнай вайны як кіраўнік Менскага таварыства сельскай гаспадаркі аказваў дапамогу бежанцам і ахвярам вайны, захоўваў эвакуяваную пародзістую жывёлу, арганізаваў дагляд за прыватнымі гаспадаркамі Менскай губерні, чым паменшаў страты ад вайны і нямецкай акупацыі. Пасля падзення расійскага самаўладдзя ў ходзе Лютаўскай рэвалюцыі (1917) становча ўспрыняў працэс палітычнага самавызначэння беларусаў і стаў разам з іншымі лідарамі Менскага таварыства сельскай гаспадаркі актыўным прыхільнікам палітычнай суб'ектнасці Беларусі (аж да стварэння беларускай дзяржаўнасці). У 1917 г. выдаткаваў грошы на Беларускі нацыянальны камітэт (у Менску). Падтрымліваў свайго "палітычнага вучня" і паплечніка Рамана Скірмунта, які летам 1918 г. на пасадзе прэм'ер-міністра ўрада БНР рабіў захады, каб БНР фарміравалася як капіталістычная дзяржава.

Пасля адыходу з Беларусі нямецкіх войск узначаліў Саюз палякаў беларускіх ускраін, актыўна ўдзельнічаў у снежні 1918 г. у арганізацыі набору і фінансавання Літоўска-беларускіх дывізій, падтрымаў ідэю ўваходжання літоўска-беларускіх зямель у склад шматнацыянальнай федэратыўнай Рэчы Паспалітай, увайшоў у склад Польска-беларускага таварыства для палітычнага і культурнага супрацоўніцтва на Беларусі і Саюза маянткоўцаў Літвы і Беларусі ў Варшаве. У снежні 1921 г. са сваякамі вырашыў асесці ў польскім Быдгашчы, адышоў ад палітычнай дзейнасці і не ўступаў у палітычныя партыі.

11 чэрвеня 2006 г. труна з рэшткамі Эдварда Вайніловіча была ўрачыста перапахавана ў Менску каля касцёла Святога Сымона і Святой Алены пры прысутнасці далёкіх сваякоў Вайніловічаў.

***Вікіпедыя.***

# Аншлаг на курсах украінскай мовы ў Менску





6 кастрычніка ў менскай сядзібе ТБМ распачаліся бясплатныя курсы ўкраінскай мовы, якія сабралі сапраўдны аншлаг. На першым занятку прысутнічалі пасол Украіны ў Беларусі Ігар Кізім, старшыня ТБМ Алег Трусаў і першы намеснік старшыні Алена Анісім. Украінскі дыпламат адзначыў, што не чакаў убачыць столькі ахвотных вывучаць украінскую мову ў Менску, а таксама паабяцаў, што ўкраінскі бок зробіць усё магчымае, каб падтрымаць гэтую зацікаўленасць. Ігар Кізім агучыў інфармацыю пра адкрыццё ўкраінскага тэлеканала ў Беларусі. Усю тэхнічную дакументацыю па гэтым пытанні ўкраінскі бок ужо перадаў у Менск. Пасол зазначыў, што гаворка ідзе таксама і пра адкрыццё бюро агенцтва "Ўкрінфарм" у беларускай сталіцы.

***Фота Волі Афіцэравай.***
***https://nn.by.***

# Як беларускую мову з сімвалічна дзяржаўнай зрабіць рэальна дзяржаўнай

*Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь*
*Качанавай Наталлі Іванаўне*
*Старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага*
*Сходу Рэспублікі Беларусь*
*Мясніковічу Міхаілу Ўладзіміравічу*
*Прем'ер-міністру Рэспублікі Беларусь*
*Кабякову Андрэю Ўладзіміравічу*

## ЗВАРОТ

Мінула больш за год пасля нашага Звароту да Вас з прапановай пачаць тэрмінова ратаваць беларускую мову ад так рэальнага для яе на сёння вымірання. Згодна з даўно заведзенай практыкай вы даручылі даць адказ падпарадкаваным вам установам - Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнай акадэміі навук, гэта значыць структурам, у кампетэнцыю якіх не ўваходзіць распрацоўка канцэпцыі дзяржаўнай моўнай палітыкі. У іх адказе на наш Зварот ні слова аб тым, як беларускую мову з сімвалічна дзяржаўнай зрабіць рэальна дзяржаўнай.

Неабходнасць непасрэдна Вашага ўдзелу ў развязванні гэтай лёсавызначальнай для беларускага народа праблемы дыктуецца дзвюма наступнымі галоўнымі прычынамі: па-першае, менавіта па віне ўладных структур, а не народа беларуская мова даведзена амаль да поўнага заняпаду (да гэтага прамое дачыненне маюць ініцыяваныя ўладамі майскі 1995 і лістападаўскі 1996 г. рэферэндумы); па-другое, выратаванне беларускай мовы ад пагібелі набыло такі архіскладаны характар, што з гэтай бядой можа справіцца толькі дзяржава. Любая грамадзянская ініцыятыва не дасць належнага выніку. Таму ва ўнісон з папярэднім Зваротам мы зноў прапануем вам абвясціць народу, што ў моўнай сферы з-за сур'ёзных хібаў рэгулявання яе склалася надзвычайнае становішча. Пільнай увагі дзяржавы да беларускай мовы настойліва патрабуе і святкаванне 500-гадовага юбілею зараджэння беларускага кнігадрукавання. Вы павінны пераканаць народ, што сваімі канкрэтнымі практычнымі захадамі ў дадзенай сферы дзяржаўнай палітыкі зробіце усё, каб ужо ў бліжэйшы час у суверэннай Рэспубліцы Беларусь забяспечвалася поўнамаштабнае выкарыстанне ў афіцыйным жыцці той мовы, якую Францішак Скарына абраў для выдання Біблії.

На нашу мінулагоднюю крык-прапанову тэрмінова ратаваць беларускую мову не адрэагавалі і падпарадкаваныя вам дзяржаўныя газеты. І як непазбежны вынік, уладамі краіны і кроку не зроблена ў інтарэсах беларускай мовы. Як і раней, у афіцыйнай моўнай сферы пануе матухна-стыхія, што выгадна толькі рэальна адзінай у нас дзяржаўнай рускай мове, што вядзе да татальнай русіфікацыі Беларусі.

Мы, як і многія іншыя арганічна, цесна інтэграваныя ў нацыянальнае культурнае жыццё Бацькаўшчыны людзі, спадзяваліся штосьці добрае, заспакаяльнае пачуць пра беларускае роднае слова падчас выступлення Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў пачатку лютага сёлетняга года перад вельмі прадстаўнічай аўдыторыяй, дзе прысутнічала шмат высокага рангу палітыкаў, творчых асоб, гэта значыць тых, хто больш за ўсіх адказны за лёс свайго народа, у якога проста на вачах гіне родная мова. Зараз нават сярэднестатыстычны беларус выдатна разумее небяспеку панавання ў яго краіне "русского мира", бо гэта немінуча вядзе не толькі да страты яе этнакультурнай самабытнасці, але і дзяржаўнага суверэнітэту. Тут шмат чаго залежыць ад таго, якую сацыяльную ролю ў краіне адыгрывае яе тытульная беларуская мова. У гэтым плане нічога не было сказана Прэзідэнтам. Наадварот, з яго вуснаў прагучала зусім процілеглае: "Я вас заклинаю (падкрэслена намі -*Л.Л., М.С.*) и прошу: не отказывайтесь от русского языка. Потому что вы откажетесь от своего родного." На практыцы ж з-за бязмежнага панавання рускай мовы ў грамадскім жыцці краіны ўжо мільёны беларусаў страцілі роднае беларускае слова. У дашчэнту зрусіфікаванай Беларусі руская мова суправаджае беларуса ад дзіцячага садка да заканчэння вышэйшай школы, гэта значыць усё самастойнае жыццё, аж да самай смерці.

Прыведзеныя вышэй словы Прэзідэнта ніяк не стасуюцца з тым, што больш за сотню гадоў таму сказаў свайму дарагому народу, любай Бацькаўшчыне яе слаўны вяшчун Францішак Багушэвіч: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі." Пад напорам русіфікатараў не паслухалі свайго Апостала, таму беларуская мова і апынулася ў такім трагічным стане. Калі ўлады, як і сёння, у абслугоўванні ўсіх сфераў афіцыйнага жыцця будуць выкарыстоўваць толькі рускую мову, беларуская мова немінуча загіне. Раім шаноўным палітыкам падумаць, ці ж з'яўляецца гэта вашым службовым абавязкам загубіць беларускую мову? Ці не разумней было б вам рабіць усё так, каб яна стала фактычна дзяржаўнай, а руская мова, як мова рускага народа, Расіі, выконвала ў нас толькі тыя сацыяльныя функцыі, якія вы цалкам свядома ўсклалі на беларускую? Цвёрда перакананыя, што гэта самы правільны, дэмакратычны, гуманны варыянт развязвання створанай вамі, пачынаючы з мая 1995 года, моўнай



**Мікалай Савіцкі, прафесар**



**Леанід Лыч, прафесар**

праблемы.

Прапануем нарэшце набрацца смеласці і публічна заявіць, што адсутнасць беларускай мовы ў афіцыйным жыцці, камунікатыўных зносінах паміж людзьмі выклікана непрадуманымі майскім 1995 і лістападаўскім 1996 г. рэферэндумамі, у выніку якіх пайшлі пад нож ўсе дасягнутыя ў адраджэнні беларускай мовы досыць пазітыўныя набыткі пасля прыняцця 26 студзеня 1990 года самага знакавага за ўсё XX стагоддзе Закона "Аб мовах у Беларускай ССР". Абавязкова растлумачце народу, што ўсе еўрапейскія ўнітарныя краіны, а Рэспубліка Беларусь якраз і належыць да іх, у якасці дзяржаўнай выкарыстоўваюць толькі мову тытульнага насельніцтва, не прызнаючы аніякага афіцыйнага двухмоўя, таму іх родныя мовы, не ў прыклад беларускай, квітнеюць, не зведваюць аніякай пагрозы заняпаду.

Грубыя пралікі прэзідэнцкай вертыкалі ў рэгуляванні моўнага працэсу ў значнай ступені маглі быць выкліканы яшчэ і тым, што дзеля гэтага не выкарыстаны творчы патэнцыял адпаведных інстытутаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў, дзе працуе нямала здаровай беларускай нацыянальнай свядомасці навукоўцаў. Яны маглі б быць незаменнай надзейнай апорай уладаў пры распрацоўцы найважнейшых нарматыўных актаў па забеспячэнні беларускай мове статусу рэальна дзяржаўнай.

Калі ж і пасля прапанаваных намі шляхоў па выратаванні беларускай мовы ад скону справа не зрушыцца з месца, калі ўзнікнуць непераадольныя перашкоды, як зрабіць яе асноўным сродкам абслугоўвання афіцыйнага жыцця, тады рэкамендуем максімальна выкарыстаць дзеля гэтага розум як мага большай колькасці не адараваных ад нацыянальнай глебы спецыялістаў. Вельмі суцяшае, што апошнім часам у многіх беларусаў абудзілася зацікаўленасць, павысілася адказнасць за лёс роднага слова. Увайшло ў практыку штогадовае правядзенне агульнанацыянальных дыктовак у Міжнародны дзень роднай мовы. Назіраецца пэўны ўсплёск шматлікіх грамадскіх патрыятычных ініцыятыў у абарону нацыянальных духоўных каштоўнасцей беларускага народа і найперш самай галоўнай з іх - мовы. Гэта - "Будзьма беларусамі", "Не маўчы па-беларуску", "Мова - нанова", "Чытаем па-беларуску з Velcom" і іншыя. Але без мэтанакіраванай нацыястваральнай дзейнасці самой дзяржавы ўсе гэтыя ініцыятывы не ў стане паўплываць на ўзрастанне сацыяльнай ролі беларускай мовы, на пашырэнне яе функцый па абслугоўванні афіцыйнага жыцця, г.зн. зрабіць практычны крок для набыцця ёю статусу рэальна дзяржаўнай. Тут патрэбная адпаведная палітычная воля самой дзяржавы, падобная той, з якой яна ў маі 1995 і лістападзе 1996 г. праводзіла рэферэндумы. Час для гэтага наспеў і да таго ж адчуваецца нацыянальнае ажыўленне беларускага народа, чаго не заўважалася раней.

Не выключаем, што шмат карысных прапаноў па трансфармацыі моўнай сферы Беларусі з каланіяльна залежнай у нацыянальна суверэнную магло б даць правядзенне пад кіраўніцтвам уладных структур і з удзелам грамадскасці агульнанацыянальнага конкурсу па такім пытанні: "Маё бачанне рэальных шляхоў забеспячэння беларускай мове статусу адзінадзяржаўнай у краіне". Пытанне пра рускую мову тут не павінна ўзнімацца, бо ў Беларусі яна пачувае сябе, як у Расіі. У конкурсе можна ўдзельнічаць індывідуальна і групамі. Конкурсу ніяк не могуць абысці ўсіх рангаў палітыкі Прэзідэнцкай вертыкалі, ідэалагічная эліта. Вельмі пажаданы ўдзел у ім і моладзі, якой так уласціва імкненне бачыць свой народ, сваю краіну не копіяй чагосьці чужога, а арыгіналам. Заўважым, што ў міжваенны перыяд у шэрагу ўстаноў іх беларусізацыя была паспяхова завершана галоўным чынам дзякуючы намаганням моладзі. У нашым сучасным грамадстве магутнай сілай - шкада толькі што мала скіраванай на нацыянальны інтарэс - стаў Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі (БРСМ). Аднак, верыцца, што ад удзелу ў конкурсе яго нацыянальна арыентаваных сяброў ўладам удасца атрымаць шмат чаго карыснага пра шляхі, як узвесці і пакінуць на дзяржаўным п'едэстале цалкам законна адну беларускую мову, чым толькі і выратуем краіну ад страты яе этнакультурнай самабытнасці, загубы нацыянальнага суверэнітэту.

Упэўнены, што ў ходзе правядзення такога адпаведнага нацыянальнаму ідэалу Бацькаўшчыны конкурсу ўлады атрымаюць цэлы масіў каштоўнага матэрыялу, прыдатнага для карэннага паляпшэння дзяржаўнай палітыкі ў моўнай сферы, дзе на вялікую шкоду краіны пануе толькі руская мова. Не выключаем, што такі конкурс можа мець і планетарнае значэнне, з высокай практычнай аддачай быць выкарыстаным іншымі народамі, якія вядуць няспыннае змаганне за захаванне сваіх родных моваў ад руйнавальнага ўздзеяння на іх смяротных наступстваў сусветнай глабалізацыі. Каштоўнымі прагматычнага характару матэрыяламі конкурсу Рэспубліка Беларусь можа праславіць сябе на ўсю планету Зямля.

Уладным структурам прапануем неадкладна пачаць праводзіць праз радыё і тэлебачанне пастаяннае агульнанацыянальнае асветніцтва людзей аб значэнні і месцы роднай (этнічнай) мовы, беларускамоўнай адукацыі, беларускай песні ў жыцці асобы і Дзяржавы Беларусь. Неабходна раскрыць абсурднасць і смяротнасць для яе дзейнага канстытуцыйнага афіцыйнага двухмоўя, дапамагчы народу знайсці рэальныя шляхі забеспячэння беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай у краіне.

Агульнавядома, што нацыя памірае тады, калі памірае яе родная мова. Каб такой катастрофы не здарылася з намі, дзяржава павінна ўкараніць беларускую мову ва ўсе сферы жыццядзейнасці краіны. Пачынаць вяртаць беларускую мову на тэлебачанне трэба найперш з найбольш важных і запатрабаваных праграм - з "Навін". Бясспрэчна, кожны грамадзянін вольны гаворыць на той мове, на якой жадае, аднак афіцыйнай, дзяржаўнай мовай у Беларусі павінна быць мова карэннага этнасу дзяржавы - беларуская мова.

Мова - душа народа, аснова культуры, дзяржаўнасці. Толькі родная мова дазваляе беларусу па-сапраўднаму пачуваць сябе беларусам, патрыётам дзяржавы Беларусь. Татальны заняпад беларускай мовы вымушае людзей не па сваёй волі жыць у рэчышчы іншай культуры. Акрамя ўсяго гэтага, этнічная мова з'яўляецца надзейным гарантам і абаронцам нацыянальнай бяспекі. Гісторыя сведчыць: там, дзе мае месца няспынны працэс культурна-моўнай асіміляцыі, а ў нас гэта адбываецца ў форме франтальнай русіфікацыі, там ідуць войны або пануюць бестэрмінова замарожаныя ваенныя канфлікты.

Улады нарэшце павінны вырашыць і заявіць народу, кім павінна быць яго Айчына: суверэннай дзяржавай ці прыдаткам Расіі, а беларусы - самабытным народам ці адгалінаваннем рускай нацыі?

Пытанне ж пра рускую мову не павінна ўзнімацца, бо ў Беларусі з ёю няма праблем. Руская мова ў нас - гэта найперш імперскія інтарэсы Расіі ў Беларусі. Гістарычная місія ўладаў Беларусі - гэта выратаванне, абарона беларускай мовы, беларускай культуры, а значыцца і самой беларускай нацыі. У рускай мовы, у рускай культуры хапае абаронцаў і без беларусаў.

P.S. Пасланы Вам тэкст будзе прапанаваны намі для надрукавання ў газетах: "Звязда", "Советская Беларусь", "Рэспубліка", "Народная газета", таму просім Вашага ўказання рэдактарам пералічаных перыядычных выданняў змясціць яго на сваіх старонках.

Каб Вам, высокія дзяржаўныя дзеячы, глыбей усвядоміць гістарычную ролю роднай мовы народа, якому вы служыце, прапануем пазнаёміцца са зместам наступных цытат:

*Когда исчезнет народный язык, народа нет более ... Пока жив язык народный в устах народа, до тех пор жив и народ.* (Рускі педагог Канстанцін Ушынскі, 1824 - 1870.)

*Там, дзе кожны валодае дзвюма мовамі, заўсёды ў рэшце рэшт агульная перавага па тых ці іншых прычынах будзеададзена адной з іх ... нацыя знікне не з-за вымірання і не з-за знікнення яе культурной агульнасці, а проста таму, што яна перастане гаварыць на сваёй мове.* (Сусветна вядомы тэарэтык па нацыянальным пытанні Карл Каўцкі, 1854 - 1938.)

*Увядзенне другой дзяржаўнай мовы пагражае нацыянальнай бяспецы, самабытнасці, унітарнасці дзяржавы, інтэгрыруючай ролі мовы і культуры (карэннага народа) і не ў апошнюю чаргу, асноўным эканамічным правам чалавека.* (Прафесар Македонскага ўніверсітэта Чэда Цветаноўскі.)

*Когда мы разучимся говорить на белорусском языке, мы перестанем быть нацией.* (Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.)

Мяркуем, што ёсць сэнс дзве першыя цытаты папулярызаваць праз змяшчэнне іх у залах, аўдыторыях і іншых месцах, дзе ўладамі, грамадскасцю праводзяцца рознага роду палітычныя, культурна-асветніцкія мерапрыемствы.

Просім развязанне моўнага пытання не ставіць у залежнасць ад сацыяльна-эканамічнага, палітычнага становішча ў краіне.

*Леанід Міхайлавіч Лыч, прафесар.*
*Мікалай Іванавіч Савіцкі, прафесар.*



Павел Сіяцко

# Прозвішчы Беларусі

## Новая серыя

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

411. **Дунецкі** (Анатоль) - вытвор з фармантам *-скі* ад тапоніма *Дунец* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Дунец-скі - Дунецкі*.

412. **Духоўнікаў** (Андрэй) - вытвор з прыналежным суфіксам *-аў* ад антрапоніма *Духоўнік* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Духоўнікаў*. ФП: *духоўнік* ('святар, які пастаянна прымае ў каго-небудзь споведзь') - *Духоўнік* (мянушка, потым прозвішча) - *Духоўнікаў*.

413. **Дучэнскі** (Казюк) - вытвор з фармантам *-энскі* ад тапоніма *Дудкі* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Дудчэнскі - Дуччэнскі - Дуч-энскі*.

414. **Дыбоўскі** (Іван) - вытвор з фармантам *-оўскі* ад тапоніма *Дыбы* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Дыбоўскі*. ФП: *дыбы* ('высокія шасты з прыступкамі для хадзьбы не згінаючы ног') - *Дыбы* (тапонім) - *Дыбоўскі*.

415. **Дыла** (Язэп) - семантычны вытвор ад апелятыва *дыла* 'маруда' (-літоўск. *dula* 'тс') або рэканструяванае - *дыля* 'тоўстая дошка', ('тое, што і дылёўка') 'адна з дзвюх рамаў ткацкага варштага'.

416. **Дыро** (Настасся) - семантычны вытвор ад апелятыва *дыра* (рус.) 'дзірка', а таксама 'глухі закутак, глуш'; форма з фінальным "о" для адмежавання ад апелятыва.

417. **Егарэйчанка** (Сяргей, Валянціна) - вытвор з фармантам *-анка* ад антрапоніма *Егарэйка* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Егарэйч(к/ч)-анка*. ФП: *Ягор* (імя, з мовы грэкаў *georgos* 'земляроб') - *Егарэйка* (памянш.-ласк. форма, фармант *-эйка*) - *Егарэйка* (празванне, потым прозвішча) - *Егарэйчанка*.

418. **Ельскі** (Зігмунд) - вытвор з фармантам *-скі* ад тапоніма *Ельск* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Ельск - Ельскі* (накладанне суфікса *-ск-* на фіналь ўтваральнай асновы).

419. **Ерасенка** (Андрэй) - вытвор з фармантам *-енка* ад антрапоніма *Ерась* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Ерас-енка*. ФП: *ерась* (1) у рэлігіі: адступленне ад афіцыйных царкоўных догмаў; 2) перан. 'бязглудзіца, лухта') - *Ерась* (мянушка) - *Ерась* (прозвішча) - *Ерасенка*.

420. **Есіп** (Яўген) - другасная форма, першасная *Ёсіп* - народна-гутарковая форма імя *Іосіф* (<ст.-яўр. 'Бог прыбавіць, памножыць') набыла ролю прозвішча.

421. **Еча** (Зоя) - семантычны вытвор ад апелятыва *еча* 'прага да яды'.

422. **Жабёнак** (Уладзімір) - семантычны вытвор ад дыялектнага апелятыва *жабёнак* 'жабяня'; фармант *-ёнак* (*жаб-ёнак* < *жаба*).

423. **Жадоба** (Ігнат) - семантычны вытвор ад апелятыва *жадоба* 'моцнае жаданне чаго-небудзь', а таксама 'скупы чалавек, скнара'.

424. **Жалток** (Ірына) - семантычны вытвор ад апелятыва *жаўток / желток* (рус.) 'густое жоўтае рэчыва ў птушыным яйцы'. Форма *жалток* - дзеля адмежавання ад апелятыва.

425. **Жамойдзік** (Вольга) - вытвор з суфіксам *-ік* ад антрапоніма *Жамойда* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Жамойдз-ік*. ФП: *Жамойда* ('літовец, жыхар Жамайціі, жмудзін' (Фасм.)) - *Жамойда* (мянушка, потым прозвішча) - *Жамойдзік*.

426. **Жанчак** (Ян) - семантычны вытвор ад апелятыва *жанчак* 'кішэнь' (кірг.) (Бірыла).

427. **Жарына** (Алёна) - вытвор з фармантам *-ына* ад антрапоніма *Жары* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Жар-ына*. ФП: *жары* ('жоўта-карычневы, рыжы') - *Жары* (мянушка) - *Жары* (прозвішча) - *Жарына*. Або ад апелятыва *жарына* 'вялікая жара' (параўн. *халадзіна*), які стаў мянушкай асобы, а потым прозвішчам.

428. **Жаўняровіч** (Пётр) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Жаўнер* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Жаўняровіч*. ФП: *жаўнер* ('салдат польскай арміі' - састар.) - *Жаўнер* (мянушка, потым прозвішча) - *Жаўняровіч*.

429. **Жданук** (Ніна) - вытвор з суфіксам *-ук* ад антрапоніма *Ждан* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Ждан-ук*. ФП: *ждан* ('той, тое (дзіця), якога чакаюць, хочуць' - *жд-ан*) - *Ждан* (стараж. імя) - *Ждан* (прозвішча) - *Жданук*.

430. **Жолуд** (Аляксандр) - семантычны вытвор ад апелятыва *жолуд* 'плод дуба'.

431. **Жудзь** (Эдвард) - семантычны вытвор ад апелятыва *жудзь* 'жудасць'.

432. **Жукавец** (Алег) - вытвор з суфіксам *-ец* ад 1) антрапоніма *Жукаў* і значэннем 'нашчадак названай асобы'; *Жукаў-ец - Жукав-ец*; 2) тапоніма *Жукава* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Жуков-ец*. ФП: *жук* (насякомае) - *Жук* (мянушка, потым прозвішча) - *Жукаў* (прозвішча) - *Жукава* (тапонім) - *Жукавец*.

433. **Жуковіч** (Васіль) - вытвор з фармантам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Жук* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Жук-овіч*. ФП: *жук* ('насякомае з жорскім надкрыллем', а таксама (перан.) 'пра хітрага, пранырлівага чалавека') - *Жук* (мянушка) - *Жук* (прозвішча) - *Жукавіч* (бацькайменне) - *Жуковіч*.

434. **Журавовіч** (Ларыса) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Жураў* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Жураў-овіч - Журавовіч*. ФП: *жураў* ('тое, што і *жораў / журавель*') - *Жураў* (мянушка, потым прозвішча) - *Журавовіч*.

435. **Журба** (Аляксандр) - семантычны вытвор ад апелятыва *журба* 'пачуццё смутку, душэўнай прыгнечанасці; туга, маркота'.

436. **Журбін** (Якаў) - вытвор з прыналежным суфіксам *-ін* ад антрапоніма *Журба* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Журб-ін*. ФП: *журба* ('пачуццё смутку, душэўнай прыгнечанасці; туга, маркота') - *Журба* (мянушка, потым прозвішча) - *Журбін*.

437. **Жучка** (Янка) - семантычны вытвор ад апелятыва *жучка* - 'пякучая крапіва з дробным лісцем'. Або жан. да *жук* (перан.) 'Пра хітрага, пранырлівага чалавека'. У сялянскім асяродку - 'клічка каровы, сучкі'. На сучасным этапе рэканструяванае - *Жучко*.

438. **Жучкевіч** (Вадзім) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-евіч* ад антрапоніма *Жучок* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Жучк-евіч*. ФП: *жук* ('насякомае з жорсткім надрыллем'; перан. 'хітры, пранырлівы чалавек') - *жучок* (памянш. ад *жук*: *жуч-ок*) - *Жучок* (мянушка, потым прозвішча) - *Жучкевіч*.

439. **Жыбуль** (Віктар) - семантычны вытвор ад апелятыва *жыбуль* 'блішчасты' (літ. *zibulis* 'тое, што блішчыць', 'бліскучае').

440. **Жывулька** (Аркадзь) - семантычны вытвор ад апелятыва *жывулька* 'насякомае, якое кусае (вош, блыха)' (Даль).

441. **Жыгалаў** (Анатоль) - вытвор з прыналежным суфіксам *-аў* ад антрапоніма *Жыгала* і значэннем 'нашчадак названа асобы': *Жыгал-аў*. ФП: *жыгала* ('металічны распалены прут, якім прапякаюць дзіркі ў дрэве, косці') - *Жыгала* (мянушка, потым прозвішча) - *Жыгалаў*.

442. **Жыгалка** (Валерый) - семантычны вытвор ад апелятыва *жыгалка* 'куслівая асенняя муха з калючымі шчацінкамі на хабатку, якая пераносіць узбуджальнікаў многіх інфекцыйных хвароб'.

443. **Жыдкоў** (Алег) - вытвор з прыналежным суфіксам *-оў* ад антрапоніма *Жыдок* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Жыдк-оў*. ФП: *жыд* ('яўрэй') - *жыдок* (памянш.-ласк. форма, фармант *-ок*) - *Жыдок* (мянушка, потым прозвішча) - *Жыдкоў*.

444. **Жылевіч** (Людміла) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-евіч* ад антрапоніма *Жыла* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Жыл-евіч*. ФП: *жыла* ('назва крывяносных сасудаў, сужылляў'; 'горная парода ў трэшчыне зямной кары'; 'багністае месца з падземнай крыніцай') - *Жыла* (мянушка) - *Жыла* (прозвішча) - *Жылевіч*.

445. **Жылінскі** (Лявон) - вытвор з фармантам *-скі / -інскі* ад тапоніма *Жылы / Жыліны* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Жыл-інскі, Жылінскі*. ФП: *жыла* (апелятыў мае некалькі значэнняў: 1) 'назва крывяносных судзінаў, сухажылляў'; 2) 'трэшчына ў зямной кары, запоўненая горнай пародай', а таксама 'горная парода ў тонкай трэшчыне'; 3) 'багністае месца з падземнай крыніцай'; 4) 'асобны провад, кабель') - *Жыла* (мянушка, потым прозвішча) - *Жыліна* (вытвор з фармантам *-іна* і значэннем 'нашчадак названай асобы') - *Жылы* і *Жыліны* (найменні паселішчаў з прозвішчамі *Жыла, Жыліна) - Жылінскі*.

446. **Жыхараў** (Георгій) - вытвор з прыналежным суфіксам *-аў* ад антрапоніма *Жыхар* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Жыхар-аў*. ФП: *жыхар* ('той, хто жыве (пражывае) дзе-небудзь; насельнік'; 'той, хто жыве ў памяшканні; жылец') - *Жыхар* (мянушка, потым прозвішча) - *Жыхараў*.

447. **Жэліба** (Барыс) - семантычны вытвор ад апелятыва (рус.) *желиба* < *Желя* (Фасмер) - 'шкадаванне', 'шкада'.

448. **Забалоцкі** (Анатоль) - вытвор з фармантам *-цкі (-скі)* ад тапоніма *Забалаць* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Забалац-скі - Забалоцкі*. ФП: *забалаць* ('забалочанае месца') - *Забалаць* (тапонім) - *Забалацкі* - Забалоцкі.

449. **Завальня** (Сяргей) - другасная форма, першасная *Заваліна* - семантычны вытвор ад апелятыва *заваліна* (рус. 'прызба' (земляны невысокі насып уздоўж знадворных сцен хаты)).

450. **Загорская** (Ніна) - вытвор з фармантам *-ская* ад тапоніма *Загора (Загор'е)* і значэннем 'народзінка, жыхарка названай мясцовасці, паселішча': *Загор-ская*. ФП: *гара* ('пагорак') - *За гарой* (тапонім, неаднаслоўны) - *Загора* (тапонім, нярэдка згадваецца Янкам Брылём як блізкая яму мясціна) - *Загорская*.

451. **Задворка** (Ігар) - семантычны вытвор ад апелятыва *задворка* 'тое, што за дваром', 'той, хто жыве за дваром' (утварэнне *за-двор-ка*).

452. **Залатар** (Андрэй) - семантычны вытвор ад апелятыва *залатар* 'майстар у вырабе розных рэчаў з золата; ювелір' (састар.); а таксама 'даўнейшая іранічная назва асенізатара'.

453. **Залога** (Генадзь) - семантычны вытвор ад апелятыва *залога* 'залог, заложнік' (Нас.), 'аблога, залеж' (Даль), 'гарнізон', 'ахоўны пост' (Грынч.).

454. **Заманіха** (Алеся) - семантычны вытвор ад апелятыва *заманіха* 'дрэва або кустоўе з дробнымі зеленаватымі кветкамі і сакавітымі пляскатымі пладамі'.

455. **Запрудскі** (Мікола) - вытвор з фармантам *-скі* ад тапоніма *Запруддзе* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Запруддз-скі - Запрудскі*. Або ад мікратапоніма *За прудам*: *Запруд-скі*.

456. **Зароўскі** (Уладзімір) - вытвор з суфіксам *-скі* ад тапоніма *Зароўе* (<*За ровам*) і значэннем 'жыхар (народзінец) з *Зароўя*': *Зароў-скі*.

457. **Зарыцкі** (Эдуард) - вытвор з фармантам *-скі* ад тапоніма *Зарыца* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Зарыц-скі - Зарыцкі*. ФП: *зоры* ('зоркі') - *Зорыца* (`мясціна, асветленая зорамі`) - *Зарыцкі*.

458. **Зарэмба** (Андрэй) - семантычны вытвор ад апелятыва (польск.) *zaraba* 'зарубка'.

459. **Зарэцкая** (Лілея) - вытвор з фармантам *-ская* ад тапоніма *Зарэчча* і значэннем 'народзінка, жыхарка названай мясцовасці, паселішча': *Зарэчч-ская - Зарэцкая*.

460. **Засінец** (Міхась) - другасная форма, першасная *Засенец* - вытвор з суфіксам *-ец* ад тапоніма *Засень* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Засенец*. ФП: *засень* (`месца, заценена чымн. ад прамянёў сонца`; *заценъ*) - *Засень* (тапонім) - *Засенец* - *Засінец*.

461. **Заслонава** (Ірына) вытвор з суфіксам *-ава* ад антрапоніма *Заслон* з семантыкай 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Заслон-ава*. ФП: *заслон* ('вайскова атрад для аховы і прыкрыцця галоўнай часткі войска', 'хатняя пераносная лаўка') - *Заслон* (мянушка, потым прозвішча) - *Заслонава*.

462. **Зась** (Леанід) - семантычны вытвор ад апелятыва *зась* (укр.) (выкл. разм.) 'дудкі'; 'нельга'.

463. **Збруеў** (Аляксандр) - вытвор з прыналежным суфіксам *-еў* ад антрапоніма *Збруя* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Збру-еў - Збруеў*. ФП: *збруя* ('прыналежнасці для запрагання або сядлання коней і іншых цяглавых жывёл; вупраж') - *Збруя* (мянушка, потым прозвішча) - *Збруеў*.

464. **Званец** (Раіса) - семантычны вытвор ад апелятыва *званец* 'травяністая расліна сямейства залознікавых з жоўтымі кветкамі і плодам у выглядзе каробачкі'.

465. **Звяруга** (Анастасія) - семантычны вытвор ад апелятыва *звяруга* 'вялікі, страшны звер', а таксама 'тое, што і звер 'дзікая, звычайна драпежная жывёліна''; перан. 'Пра вельмі злога, жорсткага чалавека'. Антрапонім нярэдка набывае форму з фінальным "о": *Звяруга* > *Зверуго* (для адмежавання ад апелятыва).

466. **Зігуля** (Нэлі) - семантычны вытвор ад апелятыва *зігуля* 'водбліск' - утварэнне ад дзеяслова *зігацець* (Вялікі слоўнік беларускай мовы Ф.А. Піскунова, с. 371) 'блішчаць, зіхацець, адбіваючы святло, прамяні'.

467. **Зіменка** (Андрэй) - вытвор з фармантам *-енка* ад антрапоніма *Зіма* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Зім-енка*. ФП: *зіма* ('самая халодная пара года паміж восенню і вясной') - *Зіма* (мянушка) - *Зіма* (прозвішча) - *Зіменка*.

468. **Зінава** (Роза) - вытвор з фармантам *-ава* ад антрапоніма *Зіна* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Зін-ава*. ФП: *Зіновій* (імя, з мовы грэкаў 'жыццё Зеўса') - *Зінь* і *Зіна* (народна-гутарк. форма) Зіна (празванне, потым прозвішча) - *Зінава*. Або рэканструкцыя імя *Зіновій*.

469. **Зінкевіч** (Часлава) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-евіч* ад антрапоніма *Зінко* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Зінк-евіч*. ФП: *Зіна* (імя мужч., з мовы грэкаў *Zenos*) - *Зінко* (мянушка, потым прозвішча) - *Зінкевіч*.

470. **Змеяшыйка** (Агата) - семантычны вытвор ад апелятыва *змеяшыйка* 'птушка атрада веслаапогіх з тонкай, доўгай шыяй'.

471. **Зубар** (Людміла) - рэгіянальны варыянт (паводле народнага вымаўлення сегмента *бар* на месцы графемнага *бр*) нарматыўнага *Зубр* - семантычнага ўтварэння ад апелятыва *зубр* 'дзікі лясны бык сямейства пустарогіх', а таксама (пераносна) 'Пра буйнога спецыяліста, уплывовую асобу (разм., жарт.)'). ФП: *зубр* (звер) - *зубр* (спецыяліст) - *Зубр* (празванне) - *Зубр - Зубар*.

472. **Зубец** (Ірына) - семантычны вытвор ад апелятыва *зубец* 'востры выступ на інструменце, прыладзе працы, частцы машыны і інш.', а таксама 'востры выступ на паверхні, абрысах чаго-небудзь'.

473. **Зубніца** (Ірына) - семантычны вытвор ад апелятыва *зубніца* 'шматгадовая травяністая расліна сямейства крыжакветных з буйнымі белымі, палавымі або пурпурнымі кветкамі'.

474. **Зубрыцкая** (Юлія) - вытвор з фармантам *-ская* ад тапоніма *Зубрычы* і значэннем 'народзінка, жыхарка названай мясцовасці, паселішча': *Зубрыч-ская - Зубрыц(чс/ц)-кая*.

475. **Зуеў** (Антон) - вытвор з прыналежным суфіксам *-еў* ад антрапоніма *Зуй* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Зуй-еў*. ФП: *зуй* ('ачоскі шэрсці') - *Зуй* (мянушка, потым прозвішча) - *Зуеў*.

476. **Зяловіч** (Арсен) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Зяло* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Зял-овіч*. ФП: *зяло* ('насенне пустазелля ў збожжы') - *Зяло* (мянушка, потым прозвішча) - *Зяловіч*.

477. **Зяньковіч** (Дар'я) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Зенька / Зянько* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Зяньк-овіч*. ФП: *Зіна* (муж. імя -грэч. *Zenos* 'Зеўс') - *Зянько* (мянушка) - *Зянько* (прозвішча) - *Зяньковіч*.

*(Працяг у наст. нумары.)*

## ПАМЯЦІ МІКАЛАЯ ПУПКО

Сябры Івянецкай суполкі ТБМ імя Францішка Скарыны смуткуюць у сувязі з канчынай на 86-м годзе жыцця надзейнага сябра суполкі, грамадскага дзеяча, актыўнага змагара за беларускасць, прапагандыста роднага слова ў сваіх вершах, былога настаўніка, душэўнага, мудрага чалавека **МІКАЛАЯ МІКАЛАЕВІЧА ПУПКО**.

Вечнага супакою табе, сябар!

## Памяці Міколы Аўрамчыка



У 2007 годзе на літаратурным мерапрыемстве ў Палацы мастацтваў я пазнаёміўся з класікам беларускай літаратуры Міколам Аўрамчыкам,з якім мы абмяняліся нумарамі тэлефонаў. Творца запрасіў дадому. 3 лістапада 2007 года ён падпісаў мне вельмі цікавую кнігу ўспамінаў "Знаёмыя постаці", якая пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" у 2004 годзе. Літаратурна-мастацкае выданне мае наклад 2000 асобнікаў і чытаецца вельмі хутка і цікава...

Пасябравалі з класікам. Я пачаў паведамляць шаноўнаму творцу апошнія навіны з літаратурнага жыцця г. Менска і краіны дзесьці раз у два тыдні... Таксама я прысутнічаў на 90-годдзі і 95-годдзі класіка. Я пазнаёміўся таксама з дочкамі літаратара і асабліва са спадарыняй Ірынай Мікалаеўнай.

23 верасня 2016 года класік запрасіў дадому, бо выйшла кніга яго выбраных твораў у "Беларускім кнігазборы". Аўтарам праекту і галоўным рэдактарам з'яўляецца знакаміты Кастусь Цвірка. Адказным за выпуск з'яўляецца Георгій Кісялёў, а карэктарам славутая Наталля Кучмель. Наклад кнігі 700 асобнікаў. З цікавасцю чытаюцца вершы класіка "Трыо", "Святлане", "Анкета", "Кузня", "Чаканне"...

Асабіста мне вельмі спадабаўся аўтабіяграфічны раман "У падзямеллі", які я прачытаў усяго за 4 дні. Таксама з цікавасцю чытаюцца ўспаміны творцы "З імем Купалы ў сэрцы", "Сустрэчы", "Незабыўнае", "Пакутныя блуканні", " Шчодрасць паэзіі" і іншыя.

Вельмі сумна было прысутнічаць на развітанні з Міколам Аўрамчыкам, на якое прыйшлі амаль усе лепшыя паэты і празаікі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Было шкада, што адышоў апошні сябар Янкі Купалы.

***Аляксей Шалахоўскі,***
*гісторык культуры, літаратар.*

# Актуальнае пераасэнсаванне жыццяпісу Скарыны

Гэты год багаты не толькі на навукова-папулярныя выданні, прысвечаныя подзвігу Францішка Скарыны, але і на сцэнічныя формы асэнсавання біяграфіі асветніка.У жніўні паспяхова прайшла і выклікала зацікаўленасць прэм'ера спяктакля "1517" у сталічным тэатры беларускай драматургіі.

Новая інтэрактыўная пастаноўка "Друкар" па п'есе А. Петрашкевіча адбылася 4 кастрычніка ў менскім Ліцвінскім клубе ў прысутнасці больш 100 гледачоў.Творчая група пад кіраўніцтвам Наталлі Бачышчы засяродзіла ўвагу на драматычных момантах з жыцця Францішка Скарыны і дазволіла адчуць выпрабаванні і пакуты першадрукара. Адзін з такіх эпізодаў адбываўся ў 1532 годзе, калі Скарына быў зняволены у турме ў Познані за даўгі свайго брата Івана. Вартаўнік прыносіць ежу ў камеру і распытвае пана Францішка, ці не рабаўнік ён, ці не валацуга, ці не злодзей. Супраць Скарыны, які ўносіў свае прапановы ў Статут ВКЛ 1529 года і марыў, каб у валадароў дзяржавы побач са зборнікам свецкіх законаў знаходзілася Біблія, плятуцца прыдворныя інтрыгі. Ён сумуе па доме, па каханай жонцы Маргарыце, балюча перажывае вестку пра пажар у друкарні. Яго ратуе моцная вера і суцяшае слова Божае.






Назіральнік у астрозе, ролю якога выканаў Раман Патапчук, разважае пра тое, колькі ўсяго спатрэбілася пану Францішку для першадрукаў: дасканалы пераклад Бібліі, над якім ён працаваў пяць гадоў, кірылічныя шрыфты, гравюры для ілюстрацый, папера і, ўрэшце, грошы. Ён пачынае глыбока паважаць яго, становіцца яго сябрам і дапамагае яму - прыносіць у камеру ягоныя кнігі.

Лёс доктара лекарскіх навук і кніжніка вырашаюць кароль Жыгімонт з каралевай Бонай Сфорцай. Яны запрашаюць на свой баль усіх гледачоў Ліцвінскага клуба разам з дзецьмі і танчаць з імі мінуэты. Скарыне перадаюць ліст, у якім кароль вызваляе яго ад судовых прэтэнзій і абяцае сваю асабістую апеку.

Роль Францішка Скарыны выканаў будучы гісторык Радыён Мадатаў, які вучыцца ў магістратуры ў БДУ. У караля пераўвасобіўся Алег Рукаль, Гаштольдам быў Барыс Гарбачэўскі, а роля каралевы прышлася вельмі да твару выкладчыцы беларускай літаратуры Марыне Багародзь. Актуальнае пераасэнсаванне жыццёвага шляху Скарыны ўдала дапаўняе творчыя імпрэзы юбілейнага года.

***Эла Дзвінская.***

На фота аўтара:

1. Кароль Жыгімонт і каралева Бона Сфорца (А. Рукаль і М. Багародзь);
2. Гаштольд і Францішак Скарына (Б. Гарбачэўскі і Р. Мадатаў).

# Пра лёс нашай спадчыны

МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Праспект Пераможцаў, 11, 220004, г. Мінск

Тэлефон (017) 203 75 74
Факс (017) 203 90 45

e-mail: ministerstvo@kultura.by

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

Проспект Победителей, 11, 220004, г. Минск

Телефон (017) 203 75 74
Факс (017) 203 90 45

e-mail: ministerstvo@kultura.by

25.09.2017 № 06-02/5573

На № ____________ ад ____________

Старшыні грамадскага аб'яднання
"Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"
Трусаву А.А.

Аб разглядзе звароту

Паважаны Алег Анатольевіч!

У адпаведнасці з даручэннем Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь ва ўзаемадзеянні з зацікаўленымі разгледжаны Ваш зварот па пытанні забеспячэння захаванасці палаца Рдултоўскіх у аг. Сноў Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. Паведамляем наступнае.

Пытанне далейшага выкарыстання гісторыка-культурнай каштоўнасці катэгорыі "2" "Былы палацава-паркавы ансамбль: палац, парк у аг. Сноў Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці", якая знаходзіцца ў камунальнай уласнасці Нясвіжскага раёна, прапрацавана сумесна з Мінскім аблвыканкамам і дзяржаўнай установай "Нацыянальны гісторыка- культурны музей-запаведнік "Нясвіж".

Стан былога палацава-паркавага ансамбля ў аг. Сноў нельга назваць нездавальняючым. У належным стане знаходзяцца апорныя канструкцыі, падмуркі, дах палаца (што таксама пацвярджаецца заключэннямі экспертыз, праведзеных Нясвіжскім райвыканкамам за апошні год).

Не пацвердзілася інфармацыя аб наяўных дэфектах дахавага пакрыцця, цэласнасць якога фактычна не парушаная. Наяўная адтуліна ў паддашкавым перакрыцці ўнутры будынка не з'яўляецца крытычнай і не вядзе да разбурэння бўдаўнічых канструкцый. Фасады палаца не маюць сур'ёзных пашкоджанняў (акрамя фарбавальнага пласта), у добрым стане знаходзяцца дэкаратыўныя элементы, якія ўпрыгожваюць палац як звонку, так і ўнутры. У парку неабходна правесці работы па добраўпарадкаванні, чыстцы воднай сістэмы, аднак дзве асноўныя гістарычныя алеі захаваліся, і ў цяперашні час пагрозы іх страты не існуе.

Неабходна адзначыць, што пасля прыняцця ў камунальную ўласнасць дадзенай маёмасці Нясвіжскім райвыканкамам прымаюцца пэўныя меры па забеспячэнні яго захаванасці. Райвыканкамам забяспечана кругласутачная ахова аб'екта сіламі Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь, праводзіцца штоквартальны маніторынг стану аб'екта, пакос і ўборка прылеглай да будынка тэрыторыі. Акрамя таго, будынак палаца забяспечаны вадой, тэлефоннай сувяззю, электразабеспячэннем, у ацяпляльны перыяд - цеплазабеспячэннем.

У цяперашні час Нясвіжскім райвыканкамам праводзіцца работа па арганізацыі адкрытага аўкцыёну Фондам "Мінскаблдзяржмаёмасць". Падрыхтаваны неабходны пакет дакументаў, уключаючы поўную інвентарызацыю будынкаў і збудаванняў на тэрыторыі гісторыка-культурнай каштоўнасці, экспертныя заключэнні аб стане аб'ектаў нерухомасці, інжынерных сетак, і вядзецца праца над заключным этапам ацэнкі маёмасці ў комплексе ўсіх будынкаў.

Улічваючы наяўнасць на тэрыторыі аб'екта будынкаў і памяшканняў, якія могуць быць абсталяваны для лячэбных і рэкрэацыйных мэтаў без істотнай перапланіроўкі і перапрафілявання (інфраструктура шпіталя пагранічных войскаў), адным з варыянтаў далейшага выкарыстання вышэйназванай гісторыка-культурнай каштоўнасці можа быць стварэнне санаторыя (базы адпачынку) за кошт прыватных інвестыцый.

Паводле папярэдніх ацэнак для правядзення рэстаўрацыйна - аднаўленчых работ на будынку палаца Рдултоўскіх неабходна каля 14,0 млн. беларускіх рублёў.

Прыняцце аб'екта спадчыны ў рэспубліканскую ўласнасць для стварэння на яго базе турыстычнага комплексу дзяржаўнай установы "Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік "Нясвіж" лічым нямэтазгодным, з прычыны адсутнасці неабходных фінансавых сродкаў для вырашэння дадзенага пытання.

Сядзібны комплекс "Жыбартоўшчына", які размешчаны ў в. Жыбартоўшчына Дзятлаўскага раёна, не ўнесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

Паводле інфармацыі, прадастаўленай галоўным упраўленнем ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта, у адпаведнасці з рашэннем Дзятлаўскага раённага выканаўчага камітэта. ад 27.11.2014 № 476 "Об отчуждении объектов недвижимости за одну базовую величину" дадзены аб'ект у 2015 годзе прададзены з аўкцыёну індывідуальнаму прадпрымальніку.

Пры продажы маёмасці вызначаны наступныя ўмовы: увядзенне нерухомай маёмасці ў гаспадарчы абарот на працягу 2-х гадоў з моманту заключэння дамовы куплі-продажу, ажыццяўленне пакупніком прадпрымальніцкай дзейнасці з выкарыстаннем набытай нерухомай маёмасці на працягу 3-х гадоў з моманту ўключэння аб'екта ў гаспадарчы абарот, забарона на адчужэнне маёмасці да выканання ўмоў дагавора куплі-продажу.

Начальнік галоўнага ўпраўлення культуры і аналітычнай работы В.М. Чэрнік.

# У Кракаве знайшлі дакумент з подпісам і пячаткай Васіля Цяпінскага

У Кракаве знайшлі дакумент з уласнаручным подпісам і пячаткай беларускага асветніка, пісьменніка і кнігадрукара Васіля Цяпінскага. Знаходка належыць магістру гістарычных навук Ягору Сурскаму, які працуе ў аддзеле краязнаўства і археалогіі Інстытута гісторыі беларускай Нацыянальнай акадэміі навук.

Як распавядае Сурскі Радыё Свабода, дакумент знаходзіўся ў бібліятэцы Польскай акадэміі навук у Кракаве сярод розных маёмасных і фінансавых папераў шляхецкіх радоў, але храналагічна выбіваўся з пазначанага ў тэчцы датавання. Папера была анатаваная, у архіве ў Вільні нават знаходзіцца мікрафільм з дакументам, але ліст дагэтуль не быў уведзены ў навуковы абарот.

- Пячатка належыць да гербу Асвея, якім карысталіся і іншыя прадстаўнікі роду Цяпінскіх, на ёй выяўлены крыж і два паўмесяцы. Ініцыялы "WC" пацвярджаюць, што гэта асабістая пячатка Васіля Цяпінскага, - тлумачыць Сурскі.



Гісторык зрабіў даклад пра знаходку на кангрэсе "500 год беларускага кнігадруку" ў Нацыянальнай бібліятэцы.

***Еўрарадыё.***
*Фота: Ягора Сурскага.*

*Навіны Германіі*

# Платная стажыроўка беларускіх менеджараў у ФРГ

Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь праводзіць мерапрыемствы па падвышэнні эфектыўнасці арганізацыі стажыровак беларускіх менеджараў у Федэратыўнай Рэспубліцы Германія, якія будуць рэалізаваны ў 2018 - 2019 гг. у рамках сумеснай заявы пра супрацоўніцтва ў падвышэнні кваліфікацыі кіраўнічых кадраў беларускай эканомікі, падпісанага 30.06.2015 г. паміж Федэральным Міністэрствам эканомікі і энергетыкі ФРГ і Міністэрствам эканомікі Рэспублікі Беларусь. Дэдлайн: 31.10.2017.

Дадзеная заява працягвае эканамічнае супрацоўніцтва паміж ФРГ і Рэспублікай Беларусь шляхам рэалізацыі двухбаковай Праграмы падвышэння кваліфікацыі кіраўнічых кадраў беларускай эканомікі.

Мэты Праграмы: садзейнічанне рэарганізацыі беларускай эканомікі і яе інтэграцыі ў сусветную эканамічную сістэму; узмацненне рынкавай арыентацыі і падвышэнне канкурэнтаздольнасці беларускіх прадпрыемстваў; павелічэнне замежнаэканамічнага патэнцыялу беларускіх прадпрыемстваў; наладжванне кантактаў з нямецкімі прадпрыемствамі; падвышэнне прывабнасці беларускіх прадпрыемстваў для замежных фундатараў.



Удзельнікі праграмы аплачваюць навучанне ў Рэспубліцы Беларусь і праезд у Германію і назад. Кошт навучання - 470 беларускіх рублёў. Аплата праводзіцца пасля адбору па выніках гутаркі. Навучанне, пражыванне, сілкаванне (сняданкі і абеды), транспарт у Германіі фінансуецца са сродкаў Федэральнага Міністэрства эканомікі і энергетыкі Германіі. На 2018 год плануецца прыняць на стажыроўку ў агульнай колькасці 40 чалавек.

Кандыдаты і кандыдаткі павінны запоўніць анкеты і накіраваць іх да 31.10.2017 па электроннай пошце на адрас: germany@sbmt.by для Марозава Радзівона Ігаравіча. Анкеты змешчаны на сайце www.sbmt.by у частцы "Наш Інстытут - Міжнародныя праекты - Беларуска-нямецкая стажыровачная праграма".

***Крыніца: sbmt.by.***

Беларуская мова - ТБМ - наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Герасіменка А.В. - 10 р., г . Гомель
2. Чыгір Яўген - 10 р., г. Гародня
3. Кунцэвіч Святлана - 20 р., г. Менск
4. Сечка Зміцер - 10 р., г Менск
5. Яніцкая Майя - 10 р.
6. Птушка С.І. - 5 р., в. Хільчыцы, Жыткавіцкі р-н
7. Бусел Мікола - 5 р., в. Прушынішчы, Акцябрскі р-н
8. Восіпава Аляксандра - 10 р., г. Гомель
9. Лявонава Марыя - 20 р., г. Віцебск
10. Несцераў Віктар - 10 р., г. Менск
11. Сусла Мікола - 40 р., г. Вілейка
12. Асіпцова Алена 7 р., г. Магілёў
13. Жыдаль Дзяніс - 20 р., г. Менск
14. Дваранчык Юра - 15 р., г. Менск
15. Старыкевіч Б.У. - 10 р., г. Менск
16. Коўган І.К - 10 р., г. Менск
17. Філіповіч Валер - 10 р., г. Менск
18. Ралько Леанід - 10 р., г. Менск
19. Панамароў Сяргей - 20 р., г. Менск
20. Осіпава Аляксандра - 10 р., г. Гомель
21. Амяльковіч Андрэй - 40 р., г. Менск
22. Кукавенка Іван - 15 р., г., Менск
23. Рабека Мікола - 40 р., г. Менск
24. Шкірманкоў Фелікс - 10 р., г. Слаўгарад
25. Чэчат Алесь - 15 р., г Менск
26. Санько Валер - 5 р., г. Ліда
27. Несцкраў Віктар - 20 р., г. Менск
28. Бойса І.Б. - 15 р., г. Ліда
29. Кот Валер - 5 р., г. Менск
30. Саковіч Сяргей - 20 р., г. Слуцк
31. Гнятуля Алег - 10 р., г. Менск
32. Прылішч Ірына - 10 р., г. Менск
33. Грыбоўскі Васіль - 5 р., в. Чурылавічы, Менскі р-н
34. Марозаў Валер - 15 р., г. Менск
35. Фядосенка А.В. - 10 р., г Менск
36. Анісім Алена - 100 р., г. Менск
37. Панасюк А.П. - 20 р., п. Лясны, Менскі р-н
38. Федасенка А.В. - 10 р., г. Менск
39. Марозаў Валер - 15 р., г. Менск

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № BY84BLBB30150100129705001001 у Аддзяленні № 539 ААТ "Белінвестбанка" IBAN - BLBBBY2X (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **BY84BLBB30150100129705001001** Асабовы рахунак **BLBBBY2X**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

**Касір**

**Плацельшчык**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **BY84BLBB30150100129705001001** Асабовы рахунак **BLBBBY2X**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

Квітанцыя

**Касір** **М.П.**

**Плацельшчык**



№ 41 (1348) 11 КАСТРЫЧНІКА 2017 г. Наша Слова

*Алег Трусаў*

# Гісторыя сярэднявечнай Еўропы (V - XV стагоддзі)

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

У самым канцы 70-х гг. XIV ст. Феафан Грэк, які прыехаў сюды з Візантыі, распісаў фрэскамі царкву Спаса-Праабражэння, збудаваную ў 1378 г.



*Феафан Грэк. Хрыстос-Пантакратар (фрагмент роспісу Спаса-Праабражэнскай царквы ў Ноўгарадзе, 1378 г.)*

***Крызіс у дзяржаве.*** Паступова, аднак, палітычнае жыццё і сістэма кіравання ў Наўгародскай рэспубліцы пачалі занепадаць. Да 1354 г. у Ноўгарадзе быў адзін пасаднік, але ў 1354 г. з'явілася калегія пасаднікаў з шасці чалавек і кожны з іх толькі год па чарзе мог кіраваць краінай. У 1417 г. калегія ўжо мела да 12 чалавек, а з 1423 г. - да 24 чалавек. З іх кола прызначаўся пасаднік толькі на паўгода кіравання, і ў сувязі з гэтым паступова пачаўся крызіс дзяржаўнай улады. З 1420 г. Ноўгарад мае свае манеты з выявай Святой Сафіі. Гербам горада ў XV ст. стала выява "вечавай сцепені" (прыступкавае збудаванне, трыбуна веча), а таксама, уздоўж яе, выява жазла пасадніка.

Насельніцтва краіны складалася з эліты - баяр, "жытніх людзей" - буйных землеўласнікаў, дробных баяр і купцоў. Асноўная маса гараджан - гэта дробныя рамеснікі (чорныя людзі). На вёсках жылі сяляне-палоўнікі, на прыватных баярскіх землях, і смерды - на дзяржаўных землях. Былі яшчэ і сяляне-земцы, якія мелі ўласную зямлю, але апрацоўвалі яе разам з суседзямі, грамадою. Некаторыя гараджане мелі сваю зямлю за горадам, і таму яны атрымалі мянушку *"лутшые" людзі.* Самых знатных баяр у Ноўгарадзе было каля 50 чалавек. Фактычна яны і кіравалі краінай.

Пасля таго як маскоўскі князь Іван III пачаў называць Ноўгарад сваёй вотчынай, ноўгарадцы выпрасілі прасіць дапамогі ў ВКЛ. Склалася антымаскоўская партыя на чале з удавой ноўгарадскага пасадніка *Марфай Барэцкай* і яе сынамі. У 1470 г. ноўгарадцы запрасілі на пасаду служылага князя праўнука Альгерда Міхайлу Алелькавіча. У 1471 г. урад краіны накіраваў да князя ВКЛ Казіміра пасольў з просьбаю далучыцца да ВКЛ на правах аўтаноміі. Гэта вельмі не спадабалася Маскве, яна пачала вайну і разбіла вялікае, але слабое з вайсковага гледзішча, войска ноўгарадцаў на чале з сынам Марфы *Дзмітрыем Барэцкім* на рацэ Шалоні. Маскоўцы забілі некалькі дзясяткаў тысяч чалавек, а некаторых забралі ў палон.

Наўгародская эліта была або знішчана фізічна, або адпраўлена ў маскоўскія турмы. Усю іх маёмасць забраў маскоўскі князь. Такім чынам, у 1478-1479 гг. Наўгародская рэспубліка канчаткова спыніла сваё існаванне.

### 2. Пскоўская рэспубліка

***Росквіт Пскова*** пачаўся ў XIII ст. Пра гэта сведчаць яго абарончыя збудаванні. З XIII ст. да Крома быў прыбудаваны яшчэ адзін умацаваны гарадскі квартал, які атрымаў назву *Даўмонтаў горад.* На працягу XIV-XV стст. тут паставілі шэсць мураваных храмаў і мураваныя палаты. Археолагі знайшлі рэшткі гэтых будынкаў, а таксама сляды старажытных вуліц, вымашчаных драўлянымі плахамі на лагах. Шырыня іх вагалася ад 3 да 3,15 м, а паабапал стаялі платы з абчасаных бярвёнаў дыяметрам ад 8 да 12 см. Быў знойдзены і драўляны вадаправод у выглядзе труб, што складаліся з двух жалабоў, абгорнутых бяростай. Гараджане ў гэты час жылі ў драўляных хатах плошчай у сярэднім 20-25 $м^2$.

У 1309 г. будуюць трэцяе кола гарадскіх муроў, і з'яўляецца ўмацаваны *Сярэдні горад.* У канцы XIV - пачатку XV стст. гарадскія муры дабудавалі і павялічылі іх таўшчыню да 4 м, а таксама паставілі шэсць вежаў з байніцамі. У другой палове XIV ст. будуюцца новы мураваны *сабор св. Тройцы*, 20 іншых мураваных храмаў у розных частках горада і чацвёртае кола гарадскіх муроў, абнесенае глыбокім ровам. Асобны раён горада называўся Запскоўскім і знаходзіўся на другім беразе рэчкі *Псквы.*

З XIV ст. склалася самастойная *пскоўская будаўнічая школа*, адрозная ад ноўгарадскай. Пскоўскія дойліды стварылі аднакупальную, трохапсідную кубічную кампазіцыю храма, а таксама асобны тып бесслуповага храма з сістэмай прыступкавых скляпенняў. Плоскія пабеленыя сцены падзялялі плоскімі лапаткамі на тры часткі, з паўкруглымі аркамі ў завяршэнні храма. У якасці прыкладу можам прывесці *царкву Ўспення ў Мялятаве* (1463 г.). Адной з адметных рысаў пскоўскай школы былі высокія шматпралётныя званіцы.

У XIV-XV стст. расквітнела і *пскоўская школа жывапісу*. Творы вылучаюцца павышанай экспрэсіяй вобразаў, падкрэсленасцю блікаў і выразнасцю мазка пэндзля. Гэта - фрэскі вышэйзгаданых сабора Раства Багародзіцы і царквы Ўспення. Да другой паловы XIV ст. адносяцца ўнікальныя абразы: *"Сабор Маці Божай"* і *"Параскева Пятніца, Варвара і Ўльяна"*.

У XV ст. узнікае славуты *Пскоўска-Пячорскі манастыр* у мясцовасці Пячора, які меў абароннае значэнне. У 1473 г. збудавалі першую падземную *пячорную Ўспенскую царкву*. У XVI ст. вакол манастыра ўзнікае пасад, які абнеслі разам з манастыром мурам з 9-цю вежамі. Уваход ішоў праз *Святыя вароты з вежай*. Падземныя пячоры маюць даўжыню каля 200 м. У XVI ст. у манастыры зрабілі шматпралётную двух'ярусную вежу-званіцу з гадзіннікам. У XVI-XVII стст. тут будуюць 4 цэрквы, якія дайшлі да нашых дзён.

У 1465 г. узнікае пятае кола гарадскіх муроў Пскова. Горад дзяліўся на *7 канцоў*, з іх два - у Запскоўі. Канцы падзяляліся на *сотні*. За межамі горада з'явіліся рамесныя слабоды. У цэнтрах канцоў, або спабод, пачалі будаваць храмы, якія адначасова былі і складамі зброі.

У XVI ст. гарадскія муры мелі даўжыню 9 км, уздоўж іх мясціліся 37 вежаў, з якіх вылучалася вежа *Грымячая*, збудаваная ў 1524 г.

Пскоўская дзяржава была невялікай і займала тэрыторыю ўздоўж рэк *Вялікай* і *Наровы*. З поўдня на поўнач яна мела даўжыню каля 300 км пры шырыні каля 100 км. Акрамя рэчак, Пскоўская зямля мела і два буйныя возеры - Чудскае і Пскоўскае.

Найвышэйшым органам улады Пскоўскай рэспублікі было народнае веча, якое выбірала спачатку аднаго, а потым з 1420 г. - двух пасаднікаў, *канчанскіх старастаў* і *соцкіх*. Існавала ўрадавая рада на чале з запрошаным (наёмным) князем, які кіраваў баявой дружынай і служыў за грошы (*корм*). Была і судовая *калегія* - гаспода, у якую ўваходзілі выбарныя чальцы з ліку баяр.

Пскоўскае грамадства складалася з баяр (але не вельмі багатых), купцоў, рамеснікаў і вольных сялян, якіх звалі *земцамі*, або *сябрамі*. Бедныя сяляне бралі зямлю ў арэнду і называліся *ізорнікамі*. А халопаў тут не было.

***Княжанне Даўмонта.*** Вялікі ўклад у атрыманне Псковам незалежнасці ад Ноўгарада зрабіў князь *Даўмонт*. Гэты нальшчанскі князь у 1263 г. забіў Міндоўга, заснавальніка ВКЛ, і ў 1265 г. з дружынай колькасцю 300 чалавек уцёк у Пскоў, ратуючыся ад войска сына Міндоўга - Войшалка. У 1266 г. ён прымае хрысціянства і імя Цімафей ды абіраецца князем. Доўгі час ён ваюе з крыжакамі, а таксама з Полацкам і нават забівае полацкага князя Гердзеня. Пасля смерці князя кананізавалі як *Святога Цімафея* - абаронцу Пскова, а яго меч лічыўся сімвалам незалежнасці.

У часы Гедыміна Пскоў хацеў канчаткова вызваліцца з залежнасці ад Ноўгарада, і таму яго адносіны з ВКЛ значна палепшыліся. Актыўна дапамагаў пскоўцам зяць Гедыміна, вышэйзгаданы Давыд Гарадзенскі. Калі крыжакі ў 1323 г. аблажылі Пскоў, ён адагнаў іх ад горада і знішчыў сценабітныя машыны крыжакоў.

У 1341 г. пскоўцы звярнуліся па падтрымку да Альгерда, і ён прыйшоў ім на дапамогу разам з Кейстутам. Сын Альгерда Андрэй быў ахрышчаны і стаў пскоўскім князем з 1342 па 1345 г. Яго намеснікам быў таксама выхадзец з ВКЛ - *Юрый Вітаўтавіч.* У 1342 г. пры абароне Пскова ад крыжакоў загінуў сын полацкага князя *Воіна - Любка*.

***Атрыманне незалежнасці Псковам.*** У 1348 г., пасля падпісання з Ноўгарадам Болатаўскай дамовы Пскоўская дзяржава канчаткова зрабілася незалежнай. Аднак духоўная ўлада засталася ў руках ноўгарадскага ўладыкі, які раз у тры гады прыязджаў у Пскоў і здзяйсняў царкоўны суд.

У XV ст. эканоміка Пскова знаходзілася на ўздыме. Сяляне вырошчвалі шмат жыта, а таксама пшаніцу, авёс, ячмень. На гародах збіралі добрыя ўраджаі рэпы, цыбулі і капусты. Пскоўскі лён актыўна вывозіўся ў краіны Прыбалтыкі. Актыўна развівалася рыбалоўства, выраблялiся вялікія лодкі - *учаны*. Славіліся і мясцовыя рамеснікі, якія шылі адзенне, апрацоўвалі металы і скуры, выраблялі солад і малолі муку. Пскоўскія муляры запрашаліся на працу ў Масковію ды іншыя краіны Ўсходняй Еўропы. У Пскове таксама квітнеў выраб званоў. Актыўна развіваўся і гандаль з суседзямі - Цверскай дзяржавай, Ноўгарадам, Разанню, ВКЛ, а таксама з нямецкімі краінамі З 1424 г. Пскоў наладзіў чаканку ўласнай срэбнай манеты з выявай рысі - герба горада.

У XV ст. Пскоў пачаў праводзіць прамаскоўскую палітыку і спадзяваўся такім чынам захаваць сваю незалежнасць. Ён падтрымліваў Масковію ў войнах з Ноўгарадам і ВКЛ, асабліва падчас вайны 1500-1503 гг. Але гэта не дапамагло пскоўцам, бо Масковія не хацела мець побач з сабою незалежную рэспубліку.

***Наступ Масквы.*** 13 студзеня 1510 г. маскоўскае войска ўвайшло ў Пскоў, быў спушчаны са званіцы вечавы звон як сімвал волі і незалежнасці. Трыста самых багатых сем'яў пскоўскіх баяр і купцоў адправілі ў высылку. Прычым ім усім дазвалялі ўзяць з сабою толькі тое, што яны мелі як вопратку на сваім целе. Таму на дзяцей апранали па двое-трое футраў, хавалі залатыя манеты ў жаночую бялізну. Як жа раскулачванне ў сталінскія гады нагадвала даўнюю практыку маскоўскіх уладароў!

Да сённяшняга часу захаваліся пскоўскія летапісы XIV-XVII стст. у колькасці 25 спісаў. Найбольш цікавы - летапісны збор 1450-х - 1460-х гг., які вёўся пры *Траецкім манастыры.*

### 3. Вялікае Княства Смаленскае

На захадзе суседам Вялікага Княства Смаленскага ў XIV стагоддзі становіцца Вялікае Княства Літоўскае, а на ўсходзе - Вялікае Княства Маскоўскае, улус Залатой Арды. На мяжы XIII-XIV стст. Маскоўскае ўдзельнае княства захапілі маскоўскія вяры. Аднак тады ж смаленскія князі бяруць пад часовы кантроль бранскія землі. Пасля шлюбу з віцебскай княжёўнай вялікі князь Альгерд далучае да ВКЛ Віцебскае княства і выходзіць на межы са Смаленскам. Смаленскі князь Іван прызнае Гедыміна напрыканцы 1320-х гадоў "сваім старэйшым братам" з мэтай захаваць гандлёвы шлях па Заходняй Дзвіне з ганзейскімі гарадамі.

У 1331 і 1333 гг. маскоўскія войскі робяць два напады на Смаленск, але ён адбіваецца і спыняе выплату даніны Залатой Ардзе. Смаленск становіцца саюзнікам ВКЛ, і ў 1348 г.: смаленскія войскі ўдзельнічаюць у бітве з крыжакамі на *рацэ Страве* на баку ВКЛ, прычым адзін са смаленскіх князёў гіне ў гэтай бітве.

У 1352 г. на Смаленшчыну з Заходняй Еўропы прыходзіць эпідэмія чумы. Шмат людзей у розных смаленскіх гарадах памерла, і дзяржава падупала. Скарыстаўшыся гэтым, князь Альгерд далучае да ВКЛ Мсціслаў, Крычаў і Рослаў. Але потым ён падпісвае саюзніцкую дамову са смаленскім князем Святаславам, і яны разам робяць паход на Маскву. Пасля таго як Ягайла ў 1385 г. становіцца польскім каралём, яго старэйшы брат, полацкі князь Андрэй, вырашае з дапамогай крыжакоў і смаленскага князя Святаслава захапіць уладу ў ВКЛ. Святаслаў спачатку паспрабаваў захапіць Віцебск і Воршу, а потым аблажыў Мсціслаў, каб вярнуць сабе Мсціслаўскае княства

Аднак войскі Ягайлы 7 траўня 1386 года разбілі пад Мсціславам смалян, забілі князя Святаслава і аблажылі Смаленск. Смаленскае веча заплаціла вялікі выкуп, і князем стаў сын Святаслава *Юрый*. Ён мусіў прысягнуць на вернасць Ягайлу і стаць яго васалам.

У гэты час да ўлады ў ВКЛ прыходзіць князь Вітаўт, жанаты з дачкою смаленскага князя Святаслава - Ганнай. Ён



*Смаленскі ваяр з гербавым шчытом. Выява-рэканструкцыя.*

вырашае далучыць Смаленшчыну да ВКЛ. У 1395 г. ён бярэ ў палон смаленскіх князёў, ліквідуе Вялікае Княства Смаленскае і садзіць тут свайго намесніка. Аднак князь Юрый здолеў пазбегнуць палону і ўцёк. Пасля паразы Вітаўта ў 1399 г. у вайне з Залатой Ардой (бітва на Ворскле) Юрый захапіў Смаленск і кіраваў ім да 1403 года, калі Вітаўт зноў, і ўжо канчаткова, заняў горад і княства. У 1410 г. тры смаленскія палкі ўзялі чынны ўдзел у знакамітай Грунвальдскай бітве: гэта былі палкі з Воршы, Мсціслава і Смаленска. Аднак у рускіх і савецкіх падручніках іх упарта называюць "тры рускія смаленскія палкі". І гэта не выпадкова, бо менавіта смаленскія палкі фактычна выратавалі сітуацыю ў цэнтры баявога шыхту саюзных войскаў і стрымалі крыжацкі наступ, нягледзячы на вялізныя страты.

У красавіку 1440 г. жыхары Смаленска паднялі ўзброенае паўстанне супраць намесніка вялікага князя ВКЛ ваяводы Андрэя, і смаленскім князем стаў мсціслаўскі князь *Юрый Сямёнавіч*. Да яго далучыліся жыхары Віцебска і Полацка. Новы князь ВКЛ Казімір восенню 1440 г. выступіў супраць паўстанцаў. Юрый уцёк у Ноўгарад, а войскі Казіміра ўзялі Смаленск ды іншыя гарады. Паўстанне згасла.

*(Працяг у наст. нумары.)*





*Да 100-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі*

*Леанід Лаўрэш*

# Генерал Кандратовіч і БНР

**Захар'еўская, 24 . Генерал Кандратовіч прысутнічае ў спісе 29-ці першых сяброў партыі.**

Ужо 8 траўня 1917 г. Кандратовіч прыняў на сябе камандаванне 75-й пяхотнай дывізіяй. У 1914 г. гэтая дывізія была створаная на базе 38-й і ўваходзіла ў склад Варшаўскай вайсковай акругі. Дывізія брала ўдзел у бітве пад Варшавай, а ў 1917 г. дыслакавалася ў Беларусі. Травень 1917 г. - не лепшы час для таго, каб генералу ад інфантэрыі ва ўзросце 59 гадоў аднаўляць сваю вайсковую кар'еру. Расійская армія развальвалася, генералаў здымалі з пасад. На 1 траўня 1917 г. былі адхіленыя ад сваіх пасад 3 з 5 галоўнакамандуючых войскамі фронту (60%), 7 з 14 камандуючых арміямі (50%), 39 з 77 камандзіраў корпусаў (50,5%), каля траціны начальнікаў дывізій (75 з 240), такім чынам, больш за палову вышэйшага каманднага складу былі выкінутыя з войска. У траўні 1917 г. зафіксаваны першыя забойствы генералаў на фронце. 17 траўня група салдат арыштавала і забіла камандзіра 177-й пяхотнай дывізіі генерала Я.Я. Любіцкага. Тады ж загінуў ад рук сваіх салдатаў камандзір 184-й пяхотнай дывізіі генерал П. А. Шкарпэтак. А хваляванні ў 75-й дывізіі пачаліся з сакавіка. Захавалася аператыўная перапіска за вясну 1917 г. штаба корпуса, якому падпарадкоўвалася 75-я дывізія. Адна з спраў штаба - "Аб розных здарэннях у сувязі з увядзеннем новага ладу" - на 115 лістах уяўляе з сябе карціну распаду войска - арышты старэйшых камандзіраў прапаршчыкамі, непадпарадкаванне загадам цэлых палкоў 75-й дывізіі, масавае дэзертырства, бездапаможнасць вышэйшага камандавання, жудасны стан перадавых частак, крывавы шлях шыхтовых афіцэраў; два дзесяткі лістоў гэтых тэчак апісваюць хваляванні ў красавіку 1917 г. у 75-й дывізіі. За адзін месяц у дывізіі змянілася тры камандзіры: генералы Штэгельман (паспяхова камандаваў дывізіяй з 1914 г.,), Снесараў (быў камандзірам 2 тыдні ў красавіку), Баркоўскі. У траўні гэтую дывізію прыняў К.А. Кандратовіч. Але ў канцы верасня 1917 г. Часовы ўрад чамусьці запланаваў 75-ю дывізію, якая дыслакавалася ў Беларусі падвергнуць "мусульманізацыі", паводле планаў 75-я пяхотная дывізія павінна была камплектавацца татарамі з Казані.

Упэўнена можна выказаць здагадку, што вяртанне Кандратовіча да камандавання рэальнай вайсковай часткай было выклікана перспектывай беларусізацыі войска і ўдзелам у гэтым генерала. Тым больш, што 15 траўня 1917 г. у Менску ўзнікла Беларуская вайсковая арганізацыя, якая згуртавала вайскоўцаў, што знаходзіліся ў Менску

З успамінаў згаданага ў папярэдніх артыкулах генерала Джункоўскага бачна, што з чэрвеня 1917 г. генерал ад інфатэрыі К.А. Кандратовіч камандаваў 3-м Сібірскім корпусам, але нечым не дагадзіў начальству (вядома, што апошні да Кандратовіча камандзір корпуса генерал-лейтэнант В.А. Трафімаў пайшоў у адстаўку з пасады 6 красавіка 1917 г.).

Магчыма з-за таго, што гэтым корпусам тры месяцы камандаваў Кандратовіч, Васіль Захарка пісаў пра беларусізацыю 3-га корпуса, называючы яго не 3-м Сібірскім, а 3-м Армейскім.

У 1917 г. наступіў кароткі перыяд гісторыі, калі нацыянальныя рухі Расійскай імперыі маглі скарыстацца з дэмакратыі, здабытай пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі. Наступны спрыяльны перыяд гісторыі для паняволеных нацый наступіць толькі ў 1991 г. але таксама хутка закончыцца.

У кастрычніку 1917 г. расійскі Часовы ўрад і Стаўка на прапанову генерала Мікалая Духоніна, выканаўцы абавязкаў Вярхоўнага галоўнакамандуючага, прыступілі да перафармавання арміі на нацыянальна-тэрытарыяльных асновах. У сувязі з гэтым было дазволена арганізаваць у Менску з'езд беларускай-вайскоўцаў Заходняга фронту. Прысутныя выказаліся за пераўтварэнне Расійскай дзяржавы ў федэратыўную дэмакратычную рэспубліку, арганізацыю беларускага войска прызналі важнейшай задачай. З'езд стварыў Цэнтральную беларускую вайсковую раду (ЦБВР). Яе часовы выканаўчы камітэт узначаліў былы настаўнік, старшы унтэр-афіцэр 24-га транспарту 5-га абознага батальёна Сымон Рак-Міхайлоўскі, яго намеснікамі сталі, таксама былы настаўнік паручнік К. Езавітаў, і малодшы унтэр-афіцэр 24-й асобнай тэлеграфнай роты 12-й арміі Я. Мамонька (хутка яго змяніў студэнт Тамаш Грыб). Як бачым, досвед у ваеннай справе ў гэтых людзей быў, у лепшым выпадку, на ўзроўні малодшага тылавога афіцэра.

На з'ездзе воінаў-беларусаў Заходняга фронту генерал Кандратовіч быў абраны ў ЦБВР. Удзельніца з'езду Зоська Верас пісала: *"Увечары ў зале Губернскага дому зьезд адкрыўся. Колькі было дэлегатаў - ня помню. Але шмат салдатаў і афіцэраў - з генэралам Кандратовічам".*

9 студзеня 1978 г. у адказ на запыт Міколы Ермаловіча пра генерала, Зоська Верас патлумачыла: *"Зьезд вайскоўцаў Заходняга фронту адбыўся 18-21 кастрычніка 1917 г. Я была дэлегаткай і адной з арганізатарак, прытым - адзінай жанчынай на зьезьдзе. Загадзя прыгатаваныя значкі - бел-чырвона-белыя - параздавала ўсім сябрам зьезду і ўспакоілася. Аж тут падходзіць нехта да мяне і кажа: "А ў генэрала Кандратовіча значка німа". А ў мяне ўжо - ніводнага. Тады я адшпіліла сваю гаспадарскую бел-чырвона-белую разэтку (круглую) і прышпіліла генэралу. На трэці дзень зьезду пасадзілі мяне запісываць тых, хто хоча ў беларускія батальёны. Першым запісаўся генэрал Кандратовіч..."* .

15-24 кастрычніка 1917 г. у Менску адбылася другая сесія Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый і партый (ЦРБАіП), падчас якой гэты орган быў перайменаваны ў Вялікую беларускую раду (ВБР), якая павінна была стаць зародкам будучага органа дзяржаўнай улады. Як сведчыць фотаздымак з гэтага мерапрыемства, генерал узяў у ім удзел. Да таго ж яго памятала і Зоська Верас: *"Калі рабілі здымак удзельнікаў Усебеларускага зьезду і Вайсковага (у залі Губэрнатарскага дому), то і ген. Кандратовіч на гэтым здымку ёсьць (здымак маю)".*

Пасля гэтага пачалася канкрэтная праца па арганізацыі беларускіх вайсковых фармаванняў. Утворанае ў гэты час бюро па арганізацыі беларускага войска ўзначаліў генерал Кіпрыян Кандратовіч, ветэран балканскай, японскай і Першай сусветнай войнаў, аўтар тэарэтычных прац у вайсковай галіне. Ягонымі памочнікамі былі генерал-маёр Пажарскі, палкоўнік Камароўскі і паручнік К. Езавітаў. Кандратовіч распрацаваў адпаведны план і атрымаў дазвол на стварэнне беларускага палка ў Менску, а пасля - беларускага корпуса на Заходнім фронце.

У канцы кастрычніка 1917 г. дэлегацыя воінаў-беларусаў Заходняга фронту ў складзе старшыні выканкама ЦБВР С. Рака-Міхайлоўскага, К. Кандратовіча, М. Ярушэвіча і І. Шчэрбы выехала ў Стаўку ВГК дзеля перамоваў з Вярхоўным галоўнакамандуючым генералам М. Духонінам аб арганізацыі беларускіх вайсковых фармаванняў. Генерал М. Духонін першапачаткова нічога канкрэтнага не адказаў, але праз некалькі дзён прыслаў тэлеграму, якая дазваляла фармаванне беларускіх аддзелаў праз папаўненне беларусамі выбраных адзінак расійскага войска. К. Кандратовіч распрацаваў адпаведны план і атрымаў дазвол на стварэнне беларускага палка ў Менску, а потым і беларускага корпуса на Заходнім фронце.

У час, калі генерал К. Кандратовіч чакаў канкрэтных распараджэнняў Стаўкі, М. Духоніна паглынаў нарастаючы канфлікт з бальшавіцкімі уладамі. 9 лістапада генерал М. Духонін быў зняты з пасады галоўнакамандуючага. На яго месца бальшавікі прызначылі паручніка Мікалая Крыленку. Бальшавікам тады таксама ўдалося зняць з пасады галоўнакамандуючага Заходнім фронтам генерала П. Балуева. ЦБВР і ВБР у той час негалосна прызналі бальшавіцкую цэнтральную ўладу і не згаджаліся толькі з узурпацыяй мясцовай улады .

Кастусь Езавітаў пісаў: *"У віну ген. Кандратовічу безмоўна трэба палічыць тое, што ён не зразумеў усей вялікай адпаведнасьці моманту і ня змог перажаргнуць праз вайсковую традыцыю, патрабуючую ад падпарадкаванага безмоўнай паслухмянасьці распараджэньню старшага і не даказаў, з належным у гэтым выпадку упорствам і націскам, усю неадкладную патрэбнасьць зараз-жа, не трацячы ніводнай хвіліны часу, разьвязаць беларускую вайсковую справу ў поўным маштабе і хутка аддаць патрэбныя срочныя загады".*

Але генерал К. Кандратовіч быў чалавека старой школы, трымаўся прысягі і чакаў распараджэнняў ад законнага вышэйшага кіраўніцтва. Пазіцыя старога ваякі складалася ў тым, што патрэбна палітычнае рашэнне, пасля якога прафесійныя вайскоўцы выканаюць свой абавязак. Але Часовага ўраду, ад імя якога Духонін дазволіў стварэнне беларускага войска, ужо не было, а да прыняцця палітычнай дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі заставалася яшчэ тры месяцы, па мерках рэвалюцыйнага часу - цэлая эпоха. Не з'яўляючыся палітыкам, як, напрыклад, Пілсудскі, фармаваць войска, якое будзе служыць невядома каму, генерал не мог. І таму ягоны намеснік, палкоўнік Камароўскі, стрымліваў маладых калег ад "неабдуманых крокаў". Такім чынам, па-за межамі Менска арганізацыйную працу па стварэнні беларускіх вайсковых фармаванняў генерал аддаў на волю лёсу. Між тым, дзякуючы ініцыятыве франтавых рад, якія рэалізоўвалі пастановы сваіх з'ездаў, праца па фармаванні беларускіх аддзелаў павольна прасоўвалася наперад .

На 14 лютага 1918 г. генерал Кандратовіч лічыўся ў распараджэнні начальніка штаба армій Заходняга фронту.

Тым часам галоўнакамандуючы М. Крыленка выдаў загад на стрыманне "нацыяналізацыі" войскаў і забараніў скліканне народных з'ездаў у прыфрантавых зонах. Суровыя загады, скіраваныя супраць украінцаў і палякаў, камандуючы Заходнім фронтам А. Мяснікоў выкарыстаў супраць беларусаў і загадаў 8 снежня далучыць салдат 1-га Беларускага палка ў Менску да размешчанага ў гэтым горадзе 289-га запаснога палка пяхоты. Гэта была ліквідацыя беларускага палка. У ноч з 31 студзеня на 1 лютага 1918 г. бальшавікі арыштавалі чальцоў БЦВР.

18 лютага немцы занялі Маладзечна і пачалі наступ на Менск. Бальшавікі спешна пакідалі горад. 19 лютага беларускія вайскоўцы вырашылі ўзяць на сябе ахову парадку ў горадзе. Камендантам Менска стаў К. Езавітаў. Спехам арганізаваныя групы беларускіх вайскоўцаў і чальцоў прафсаюзаў каля 21.00 пачалі займаць горад. Аперацыю па захопе горада пачалі таксама і польскія вайскоўцы. 20 лютага беларускія атрады былі аб'яднаныя ў 1-ы Менскі полк. 23 лютага ў 11-й гадзіне раніцы ў Менск увайшлі нямецкія войскі. 25 лютага немцы раззброілі беларускія часткі .

На пачатку красавіка немцы забаранілі дзейнасць Народнага Сакратарыяту БНР. Шукаючы выйсця з такога становішча, Рада БНР дакаптавала ў свой склад кіраўнікоў беларускіх правых з утворанага ў лютым 1918 г. Менскага Беларускага народнага прадстаўніцтва. Вядучымі палітыкамі правых былі Р. Скірмунт, П. Алексіюк, генерал К. Кандратовіч, ксёндз В. Гадлеўскі, генерал А. Багдановіч, протаіерэй А. Кульчыцкі, А. Уласаў, В. Чавусаў.

Пра Камітэт беларускага народнага прадстаўніцтва, яго ўдзельнік Вінцэнт Гадлеўскі пісаў: *"25 лютага быў выбраны і Выканаўчы Камітэт Прадстаўніцтва ў ліку 9-ці асоб, у які ўвайшлі: пратаерэй Кульчыцкі, генэрал Кандратовіч , Скірмунт, кс. Гадлеўскі, Уласаў, Аляксюк, Чаўсаў, Зямкевіч і Русецкі".* Прадстаўніцтва аб'ядноўвала палітычныя сілы, якія канкуравалі з Беларускай сацыялістычнай грамадой. У праграмных дакументах заявіла, што *"прадстаўляе інтарэсы беларускага народу і з'яўляецца палітычным цэнтрам"*, які абараняе незалежнасць Беларусі, культуру і самабытнасць беларускага народа.

Віленская газета "Гоман" перадрукавала артыкул з "Беларускага шляху" № 20 ад 16.04.1918 г., у якім гэтай падзеі давалася такая ацэнка: *"У Раду Рэспублікі адразу ўвайшоў моцны "цэнтр", і цяпер праца над адбудаваннем Беларускай Народнай Рэспублікі пойдзе моцнымі крокамі... Рада пры яе чыста сацыялістычным складзе мела многа крытыкаў добраахвотных і злых... цяпер - пры новым складзе з беларускім моцным цэнтрам і левым крылом мае магчымасць быць працаздольнай... Мы дачакаліся вялікай хвілі, калі беларусы зрабілі адзіны нацыянальны фронт".*

Пасля 25 сакавіка 1918 г. стварэнне Беларускага войска было працягнутае.

У сярэдзіне красавіка 1918 г. у спісе 80-ці сяброў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, ад Камітэта беларускага прадстаўніцтва, пад № 42 прысутнічае і генерал Кандратовіч .

Дзякуючы сваёй кампетэнтнасці, дзеячы Менскага беларускага народнага прадстаўніцтва мелі большую павагу ў немцаў, чым сацыялісты ў складзе Рады БНР. 25 красавіка Рада БНР па ініцыятыве Р. Скірмунта паслала тэлеграму з падзякай нямецкаму кайзеру Вільгельму II і прасіла аб дзяржаўнай незалежнасці ў звязе з немцамі. Тэлеграму падпісалі: кіраўнік Рады БНР І. Серада, кіраўнік Народнага Сакратарыяту Я. Варонка, Р. Скірмунт і іншыя. Кандратовіча сярод іх не было.

Тэлеграма нямецкаму кайзеру Вільгельму II выклікала вострыя крызіс у беларускім руху. Распаўся Народны Сакратарыят, з якога ў знак пратэсту выйшлі некалькі міністраў. На пачатку траўня на яго месцы была створаная Рада міністраў пад кіраўніцтвам Р. Скірмунта. Сакратаром унутраных спраў у гэтай радзе быў прызначаны генерал Кіпрыян Кандратовіч, замежных спраў - А. Аляксюк, сельскай гаспадаркі - Р. Астроўскі. Новага ўраду не прызнаў старшыня Народнага Сакратарыята БНР Язэп Варонка, якога падтрымлівала частка Рады БНР. Аб утварэнні новай рады ў нумары ад 22 траўня паведаміла віленская газета "Гоман". Урад Скірмунта праіснаваў да 22 ліпеня 1918 г.

У Вільні інтарэсы Рады БНР прадстаўляла падпарадкаваная ёй Віленская Беларуская рада, якую Германія прызнала ў якасці беларускага нацыянальнага прадстаўніцтва. 20 чэрвеня 1918 г. Язэп Варонка з Менска піша Антону Луцкевічу ў Вільню пра тое, што генерал *"Кандратовіч перадасьць Вам "на выданньне "Гомана" як два разы ў тыдзень" ад Народнага Сэкрэтарыяту - 5 000 рублёў"* , 23 чэрвеня ён паведамляе, што генерал ужо павёз грошы. У Менск Кандратовіч вярнуўся 27 чэрвеня і 28 чэрвеня ўдзельнічаў у паседжанні Рады БНР, на якой разглядаліся пытанні міжнароднага і ўнутранага стану Беларусі, *пытанні бежанцаў і "жалаванне членам Рады, іх правы і абавязкі"* .

Адметна, што Каштарыс Рады БНР на *"выплату пэнсіі сябрам Рады за 20.03. - 1.07.1918"* паказвае, што ў адрозненні ад большасці сяброў Рады, Кіпрыян Кандратовіч грошы за сваю працу не атрымліваў. Беларускі генерал жыў на асабістыя сродкі, выдаткоўваўся на паездкі па краіне бо, верагодна, лічыў несумленным для сябе браць грошы ад дзяржавы, якая яшчэ толькі адраджалася.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

# Кніга з адмецінай энцыклапедычнасці

Што Аляксандра Грыцкевіч не абдзелена літаратурным талентам (паэта і асабліва празаіка і публіцыста) сведчаць яе кнігі: "Адлюстраванні" (паэзія), 2013 г. (пра гэты зборнік у свой час пісала "Наша слова"); "Рэха вякоў" (пераклады), 2014 г.; "Страта" (проза), 2017 г.; "Хай скрыпачка грае" (паэзія), 2017 г.; "Дзецям" (паэзія), 2017 г. Адразу трэба адзначыць: А. Грыцкевіч - асоба неардынарная. Па бацьку (па мячы) яна паходзіць з таго роду, што і наш слынны светлай памяці гісторык Анатоль Пятровіч Грыцкевіч. Маці яе - Марыя Мацвееўна - педагог ад Бога - "Заслужаны настаўнік БССР" (1967 г.), "Выдатнік народнай асветы" (1967 г.). Яна аўтар некалькіх кніг і шматлікіх публікацый у галіне адукацыі і педагогікі.

Нарадзілася А. Грыцкевіч у мястэчку Вызна (зараз Чырвоная Слабада). Жыццё двух яе дзядоў па бацьку і па маці абарвалася ў Слуцкай турме. Дзед па мацеры Кірдзей Мацвеевіч Кузьміч быў там расстраляны ў 1937 г. як удзельнік Слуцкага паўстання. Дзед па бацьку Грыцкевіч Васіль Аляксеевіч быў арыштаваны як нібыта польскі шпіён у 1938 г. У гэтым жа годзе і ў той жа турме ён і памёр. Рэабілітавалі абодвух у 1989 г.

А. Грыцкевіч - рознабакова адукаваны чалавек з устойлівай патрыятычна-грамадзянскай пазіцыяй. Скончыла Ленінградскі ўніверсітэт па спецыяльнасці фізіка, матэматыка і астраномія. Вельмі дасведчана яна і ў пытаннях літаратуры, філасофіі, паліталогіі і інш. Карацей, яна сябе свабодна пачувае ў навуках як прыродазнаўчых, так і гуманітарных. Яе багаж у абсягах гэтых дысцыплін не абмяжоўваецца арыентацыяй у дачыненнях мінулых часоў, яна, што называецца, валодае здабыткамі навукі і сённяшняга дня.

А цяпер колькі слоў пра яе адну з апошніх кніг "Страту" - (успаміны, каментары і разважанні), што выйшла днямі ў Смаленску ў выдавецтве "Ноопрэс". "Страта" - твор рознажанравы, шматпланавы і многасюжэтны. Калі яго чытаеш (асабліва пра дзяцінства), міжвольна ўспамінаюца "Шлях з цемры" Я. Маўра, "Расці, Ганька" А. Васілевіч і інш. з беларускай літаратуры, а з рускай "Детство, отрочество, юность" Л. Талстога, "Детство Тёмы" М. Гарына-Міхайлоўскага, "Детство Никиты" А. Талстога і інш., з заходняй літаратуры творы Ч. Дзікенса, М. Твэна, Р. Ралана і інш. Я і сам калісьці напісаў паэму ў прозе пра дзяцінства (друкавалася ў часопісе "Маладосць" і выйшла асобным выданнем у выдавецтве "Юнацтва" (1983) "Блакітныя чмялі". І ўвогуле мне падабаецца літаратура пра дзяцінства. Як і кнігі пералічаных аўтараў, кніга А. Грыцкевіч - арыгінальная. Яна не толькі пра дзяцінства і пра сябе. У ёй панарамна падаецца навакольнае жыццё яе аднагодкаў, і людзей дарослых, і розных (асабліва педагагічных) устаноў і інш.

Кнігу складаюць тры часткі: "Пра лецішча", "Байкі савецкай веранды" і "Страта". Першыя дзве часткі (невялікія памерам - разам займаюць 35 старонак з 290) - пра дачныя (фазэндныя) клопаты і забаўкі гараджан на сваіх лецішчах. А вось "Страта" - самая важкая і важная частка выдання. У ёй аўтарка распавядае пра свае жыццё з радасцямі і засмучэннямі ад дня абуджэння яе свядомасці і да сённяшняга дня, ад Вызны (Чырвонай Слабады) цераз Клецк, Новы Пагост, Чашнікі, куды па службе пераводзіўся яе бацька Аляксандр Васіл'евіч Грыцкевіч. Распавядаецца і пра Лыскі (Чашніцкі раён), дзе аўтарка пазней настаўнічала. Фрагментарна ўзгадваюцца Віцебск, Ленінград, Масква, Пенза, Ліда і інш. Разам з экскурсамі ў сваё мінулае аўтарка часта публіцыстычна па-грамадзянскі смела каменціруе з'явы і праявы ў грамадскім жыцці як мінуўшчыны, так і цяперашчыны.




Асноўны паказчык "Страты", як і іншых кніг А. Грыцкевіч пры падачы тэкставага матэрыялу, з глэдзішча інтэлектуальна-маральнай ацэнкі - безагляднная шчырасць. Яшчэ больш каштоўнай яе робіць стылістычная дасканаласць і чыстая прыродная беларуская мова. "Страта" багата насычана этнаграфічным матэрыялам. Тут таксама многа расповядаў пра фаўну і флору тых мясцін, дзе праходзілі сляды гераіні кнігі. Прываблівымі выходзяць з-пад пяра аўтара пейзажы. Цікавымі будуць расповяды і для кулінараў: аўтарка, як кажуць, і тут у тэме.

У кнізе шмат гумару і сатыры і, непазбежна, драматычных, а то і трагічных афарбовак розных старонак нашага беларускага жыцця. Тут цэлыя галерэі як станоўчых, так і адмоўных тыпажоў і тыпаў чалавечых. Асабліва запамінаючыя псіхалагічныя партрэты на фоне местачковай бытавухі. І ўсё ж гэта ўзята з паўсядзённай рэчаіснасці. І яшчэ "Страта" ў пэўным сэнсе мае адмеціны энцыклапедычнасці.

Аднаго чашніцкага хлопчыка бацькі здолелі адправіць у Артэк - усесаюзны піянерскі лагер ля Чорнага мора, а ён адтуль узмаліўся: "Забярыце мяне...тут няма рэчкі...". Рэчкі Вульянкі (Вулы, Улы) - у мінулым адной з частак шляху з варагаў у грэкі і дзе Найвышэйшы гетман ВКЛ Мікалай Радзівіл Руды (1512-1584 гг.) 26 студзеня 1564 года перамог галоўнага маскоўскага ваяводу князя Пятра Шуйскага. Да 9000 маскавітаў загінула, гэтулькі ж патанула, уратаваліся ўцёкамі каля 7000. Ліцвіны ўзялі ў палон 12 ваяводаў і абоз з 3000 саней. Шуйскі загінуў. Дык вось, кожная звіліна, кожны перакат гэтай ракі ў тых, хто правёў і на ёй сваё дзяцінства, застанецца ў памяці на ўсё жыццё, а самыя шчаслівыя ў яго сны - сны пра яе - Улу (Вулу - Вулянку). Няма сумневу, што ў таго чашніцкага хлопчыка ў падсвядомасці і гэтая славутая рака.

Дарэчы, аўтарка "Страты" празаічныя тэксты часам перамяжоўвае з уласнымі вершамі. Гэта яшчэ больш удакладняе і ўзмацняе яе інфармацыйна-сэнсавыя пазіцыі-пасылы.

Пра "Страту" можна было б сказаць і болей, але лепш хай чытач сам увойдзе ў прастору гэтага твора, хай не пазбавіць сябе прыемных уражанняў ад сустрэчы з сапраўднай творчасцю. Няма сумневу, што гэты твор упрыгожыў бы любое часопіснае выданне, але, як кажуць, там свае сяброўскія колы, і вырашаюць яны інтарэсы сваёй сябрыны, сваіх сяброў. А дарэмна, бо гэта не на карысць беларушчыны і беларускай літаратуры.

І яшчэ. У кнізе змешчаны цікавы іканаграфічны матэрыял (фота), які цесна прывязаны да яе зместу. У афармленні першай старонкі вокладкі "Страты" выкарыстана рэпрадукцыя з карціны вядомага мастака Алеся Пушкіна "Страта". Вось жа адсюль і назва кнігі А. Грыцкевіч. Змест-сімвал карціны мастака і пераважна змест кнігі нашай аўтаркі ў чымсьці супадаюць.

Праўда, як у большасці добрых спраў, заўсёды можна знайсці і які-небудзь прыкры момант, так такі момант прысутнічае і ў "Страце". Тут сустракаюцца граматычныя (асабліва марфалагічныя) памылкі (канчаткі). Гэта паказчык і таго, што ў выданні не было карэктара, ды і рэдактар пільна не зазірнуў спачатку ў рукапіс, а пасля і ў карэктуру. Не аправўдвае любая памылка і аўтарку, хаця яна, відаць, даўно ўжо не кантактавала з беларускай граматыкай. Але гэта лёгка паправіма.

І яшчэ. Ёсць у кнізе адна недакладнасць: Музей камянёў знаходзіцца не ў Лошыцы, а ва Уруччы II (Менск, вуліца Шугаева).

А напрыканцы немагчыма не павіншаваць аўтарку "Страты" і яе чытачоў са з'яўленнем кнігі, якая ніколькі не саступае, а часам і пераўзыходзіць кнігі яе любімай маскоўскай пісьменніцы Людмілы Уліцкай, і пажадаць далейшых творчых здзяйсненняў і ўдач.

***Яўген Гучок,***
***паэт, публіцыст.***

## У Беларусі выйшлі "Хронікі БІНіМу" - самай дасведчанай навуковай установы беларусаў-эмігрантаў. Гэта 33 кніга выдавецкай серыі "Бібліятэка "Бацькаўшчыны"

Пры канцы 1951 года намаганнямі беларусаў, якія па вайне апынуліся ў Злучаных Штатах Амерыкі, у Нью-Ёрку была створаная легендарная навуковая інстытуцыя - Беларускі інстытут навукі і мастацтва. Арганізацыі было наканавана не толькі праісnаваць да сённяшніх дзён, але праз пераемнасць пакаленняў даследчыкаў і наладжванне трывалых сувязяў шматкроць узмацніць свой аўтарытэт у навуковым асяродку беларусістаў. За савецкім часам БІНіМ быў ці не адзінай установай, якая на высокім навуковым узроўні займалася даследаваннем беларускай эміграцыі, у гістарычных працах унікала звычайных для айчынных даследаванняў скажэнняў і фальшавання фактаў, а таксама звярталася да рэлігійных тэмаў, рэгулярна друкуючы матэрыялы ў альманаху "Запісы".

За гады існавання БІНіМ пашырыўся на два філіялы - у Мюнхене (Германія) ды ў Таронта (Канада), - усталяваў кантакты з сотнямі арганізацый, бібліятэкамі (асабліва шчыльныя з Публічнай бібліятэкай у Нью-Ёрку), каледжамі, фондамі.

Амаль семдзесят гадоў руплівай плённай працы інстытута - больш чым дастатковы тэрмін для таго, каб паўстала нагода для гістарычнага даследавання цяпер ужо яго самога. Сябры БІНіМа Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч, скарыстаўшыся архівамі Вітаўта Тумаша (узначальваў інстытут у 1955-1982) і Вітаўта Кіпеля (узначальвае БІНіМ з 1982 года па сёння), бліскуча выканалі гэтую задачу, стварыўшы цікавую чытанку, у якой праз лісты, успаміны і пратаколы ключавых дзеячаў эміграцыі раскрываюцца нялросты ўмовы працы, праз якія праходзіў шлях да немалых дасягненняў арганізацыі.

Выданне дапоўнена бібліяграфіяй альманаха "Запісы", а таксама біяграфічным даведнікам, датычных да дзейнасці БІНіМа асобаў.

Набыць кнігу можна ў крамах: "Акадэмкніга" (пр-т Незалежнасці, 72); "Кнігарня пісьменніка" (вул. Казлова, 2); "Веды" (вул. К. Маркса, 36); "Светач" (пр-т Пераможцаў, 11); "Цэнтральная кнігарня" (пр-т Незалежнасці, 19); "Кнігі & кніжачкі" (пр-т Незалежнасці, 14); "Эўрыка" (вул. Куйбышава, 75), а таксама ў інтэрнэт-крамах knihi.by і imbryk.by.

***nn.by.***



*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.
**http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/**
**http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**
**http://nashaslova.mns.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 9.10.2017 г. у 17.00. Замова № 2124.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1,43 руб., 3 мес.- 4,29 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.